ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

27 студзеня 1995 г. № 4 (3776) Кошт 200 руб.

## ДЭМАКРАТЫЯ І ДЭМАС

***Уладзімір ГУРВІЧ: "Мы прывыклі бачыць у свабодзе найвялікшую каштоўнасць, якая дадзена чалавеку. Гэта безумоўна так, бо ўсё ягонае развіццё і ёсць набыццё свабоды, яе рэалізацыя, вызваленне сябе з палону неабходнасці. Але гэта, так бы мовіць, асноўны вектар руху. У рэальнасці ж адносіны паміж свабодай і чалавекам складваюцца больш драматычна".***

**3, 14—15**

## ЗАБЛЫТАНЫЯ КАРАНІ

***Мікола ХАЎСТОВІЧ: "Створаная палітыкамі блытаніна ў найменнях падзяліла адзіны народ на беларусаў і ліцвінаў ды штурхала яго ў розныя бакі. І толькі напрыканцы XIX стагоддзя, калі бар'ер між беларусамі ды літвінамі стаў непераадольным, літвін стаў канчаткова атаясамлівацца з жамойтам. Гэтаму спрыяла і афіцыйная палітыка царызму".***

**5, 12**

## ДЫК ДЗЕ "ХАОС"?

***Алесь КАЎРУС: "Беларускім лінгвістам усе савецкія дзесяцігоддзі даводзілася балансаваць паміж рэальным станам і штодзённымі патрэбамі мовы і той гістарычнай перспектывай "грамадскай неабходнасцю", якую ёй абмалявалі тэарэтыкі "зліцця-злівання" нацый".***

**6—7, 12**

## "Я Ў СВЕТ НЯСУ ЖЫЦЦЁ..."

***Гутарка з лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы Раісай БАРАВІКОВАЙ.***

**8—9**





*З ансамблем "Класік-Авангард" спявае Віктар СКОРАБАГАТАЎ.*

## ФАКТ ТАЛЕНТУ

Слухачы — а ў той вечар зала на Залатой Горцы поўнілася людам — нібыта патрапілі на свята і атрымалі падарунак. А той, дзеля каго было наладжана гэтае свята, пачуваўся сапраўдным імяніннікам: як жа яшчэ можа пачувацца кампазітар падчас уласнага аўтарскага канцэрта? Тым больш, калі канцэрт прысвечаны 20-годдзю творчай дзейнасці...

Кампазітара Віктара Капыцьку мы нейк па інерцыі "залічвалі ў маладыя", а ён жа, аказваецца, увайшоў у пару творчага росквіту ды прафесійнай сталасці. Восенню 94-га ягоная Імша ў гонар Францыска Асізскага гучала ў Нью-Йорку. "Калыханка", фантазія для камернага ансамбля на тэмы трох калыханак — беларускай, нямецкай ды французскай — выконвалася на фестывалі сучаснай музыкі ў Швейцарыі... Гэткія "факты біяграфіі", вядома ж, значаць нямала. Аднак большае значэнне мае сам "факт таленту", які засведчылі слухачы канцэрта, складзенага з музычных прэм'ер ды ўжо добра вядомых твораў В. Капыцькі. Гучалі куранты, створаныя паводле старабеларускага ананімнага зборніка, літургічныя песняспевы, прысвечаныя памяці а. Аляксандра Меня, кантата "Знакі", "Калыханка" для камернага ансамбля, вакальныя творы на вершы А. Пушкіна, Ф. Цютчава, "Застольная" з оперы "Ягоныя жонкі"...

У аўтарскім канцэрце В. Капыцькі бралі ўдзел выдатныя нашы выканаўцы: Віктар Скорабагатаў, Ганна Каржанеўская, Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава, Дзяржаўны камерны хор Беларусі на чале з Ігарам Мацюховым... І панаваў вольны й радасны дух Творчасці.

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*



*Кампазітар Віктар КАПЫЦЬКА.*



*Дзяржаўны камерны хор Беларусі.*

# БО СЛЁЗ УЖО НЯМА

## СОТЫЯ "ТУТЭЙШЫЯ" НА КУПАЛАВАЙ СЦЭНЕ

Які спектакль, уражваючы, нават Зянона Пазняка прымусіць згадаць, што ягоная прафесія — усё-такі мастацтвазнаўца?

"Тутэйшыя". "Купалавым творам на Купалавай сцэне шэнціла, — заўважыў Зянон Станіслававіч са сцэны, віншуючы купалаўцаў з сотым паказам, — яны жылі тут доўга. "Паўлінцы" ўжо за пяцьдзесят, прызнанне і разуменне напаткалі "Раскіданае гняздо" ў пастаноўцы Барыса Луцэнкі. Не віна тэатра, што знайшліся сілы, якія скарацілі спектаклю ягоны век. Наш самы ўлюбёны, любімы спектакль — "Тутэйшыя". Услед за спектаклем назіраем сёння змены-перамены "палітычнай сітуацыі", — а яна, мовім так, метамарфозіцца. Але якою б яна ні была, — усё адно творчасць — гэта радасць, і мы жадаем вам творчых поспехаў і творчае радасці". І аддаў кветкі Марыі Захарэвіч.

Сотыя "Тутэйшыя" 23 студзеня ў соты раз нам паўтарылі вуснамі яе гераіні Ганулі: незвычайныя мы людзі. Хоць бы таму, што ўмеем так шчыра радавацца ў самую скрутную часіну. Нават у соты раз, калі "Тутэйшых" не ўшанавалі аншлагам (пралік тэатра з найпростаю рэкламаю, а мо і брак грошай на яе?), морам кветак, падарункаў ды абяцанняў зрабіць усё, каб... Каб жарты або іронія адсунуліся ўбок: Купалаў тэатр сёння — праўдзівая акадэмія сцэнічнага мастацтва і мог бы ўзяць на сябе навучальныя і выхаваўчыя клопаты пра будучыню... Ат! Тэатр, падобна, зняверваецца ў сваёй уласнай будучыні, пакуль сама перакануўчасць, сама праўдзівасць майстэрства купалаўцаў міжволі пераконвае ў адваротным. "Тутэйшыя", па-за "палітычнай сітуацыяй", мяняліся не імкліва, не порстка, не пэўна; верагодна, што мяняліся больш пад уплывам праўды мастацкай, а не жыццёвай. Прыцьмелі гратэскавыя фарбы, шчодра выдаткаваныя на Здольніка і Зносака, а іх дачыненні рупнасцю або гнуткасцю, чуйнасцю да пераменаў у Аляксандра Лабуша ды Віктара Манаева... трагічна ачалавечыліся...

Спектакль нібыта стаміўся. Стаміўся ад "палітычнай сітуацыі". Выканаўцы міжволі вярнуліся да ўлюбёнага беларускага жанру — трагікамедыі, што ўсмешліва выкрывае, не папраўдзе знішчае, гуляе шматпланавасцю, абяззбройвае, а яшчэ больш — сама абяззбройваецца, пакуль дойдзе да эпілога. Дойдзе і паляжа, і будзе палягаць, і палягае якраз на мяжы геніяльнасці і дурноты беларускага народа...

Незвычайныя мы людзі. Смяёмся. Радуемся. Бо слёз ужо няма.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

# З ЛЮБОЎЮ І АГНЁМ

## СПРОБА ПАМФЛЕТА

***Гэта парадыйная рэч, акрамя іншых хібаў, мае недахоп часавы — можа састарэць, не паспеўшы з'явіцца ў друку. Гэта, канешне, робіць сумніцельнымі яе шанцы быць надрукаванай. І ўсё ж словы ўяўнага эпіграфа "Рускія ідуць!", народжаныя ва ўлонні амерыканскага фальклору, відаць, не згубяць сваёй актуальнасці яшчэ доўга, пакуль будуць жыць месіянскія ілюзіі і старыя імперскія комплексы вялікамаскоўскага паходжання.***

***Васіль АЎРАМЕНКА***

Цяжкія часы насталі для нашае вялікае дзяржавы. Сёння не тое, што раней, і нашае былое дабро з куламі ўжо не ўпраўляецца на ўсіх абшарах шостае часткі планеты, а таму мусім сказаць сваё важкае слова ўсім заблукаўшым.

Мы любім вас і вашу зямлю так самаахвярна, што не можам уявіць, як выжывеце вы без нас. Мы любім вас так моцна, што гатовы забіць вас пры адной толькі думцы, што вы будзеце не з намі. Гэта не проста рэўнасць, гэта божая воля і вашае выратаванне, бо толькі смяротна любячы ведае, што трэба ягонаму каханку, толькі ён знае, як усталяваць парадак і вывесці з цемры аблудаў. Наша любоў бязмежная, шчырая. О, нашы бедныя няўцямныя браты! Як вы маглі падумаць, што можа быць нешта лепшае за нашу адзінавернадзяржаўную любоў? Вы памыляліся, вас увялі ў зман розныя злыдні і чужынцы. Нядоўга вам засталося чакаць, мы імчым на дапамогу з агнём у грудзях і мячом у руках. Выбачайце, калі будзе крышачку балюча. Мы, як і раней, любім вас, хочам вам свайго дабра і міру. З намі бог, а мы — з вамі.

**Усесаюзны панславянскі камітэт "За саборную Русь"**

толькі адзін з выпадкаў беларускай палітычнай практыкі.

Але тут ёсць нюансы, якія шматлікія эксперты не заўважаюць. Гэта зашоранасць робіцца зразумелай, калі ўлічыць, што большасць з іх лічыць эталонам заходнюю мадэль прыватызацыі, скажам, брытанскую. Калі ж прыгадваецца вопыт былых сацкраін, то ў асноўным у сувязі з "шокавай тэрапіяй" у Польшчы. Між тым, вялікую цікавасць уяўляе вопыт Венгрыі, па якім можна меркаваць пра плюсы і мінусы альтэрнатыўнага "шокавай тэрапіі" спосабу рыначнай трансфармацыі — дынамічнай паслядоўнай паступовасці.

Венгерская праграма рэформ змяшчала наступны тэзіс: "Урад мае намер ажыццявіць характэрныя для рынкавай гаспадаркі формы і прапорцыі не шляхам адзінчасавай рэформы, а закончыўшы вырашальны рывок у гэтым напрамку на працягу 3—5 гадоў". Такім чынам, асноўны прынцып тут — не абвальная прыватызацыя, а працэс.

Другая асаблівасць венгерскай мадэлі прыватызацыі, у адрозненне ад іншых краін Усходняй Еўропы — яе пераважная платнасць. Бясплатная перадача ўласнасці новаму ўладальніку магчымая толькі ў выключных выпадках, калі гаворка ідзе пра такіх калектыўных уласнікаў, як страхавыя фонды, царква і да т.п.

Усеагульнае бязвыплатнае размеркаванне народных акцый, бонаў ці купонаў (як у нас), якія даюць права на частку дзяржаўнай маёмасці, ва ўмовах інфляцыі і зніжэння жыццёвага ўзроўню прывядзе да таго, што большасць жыхароў пачнуць іх прадаваць. І знешне дэмакратычнае рашэнне на справе стане канцэнтрацыяй уласнасці ў руках нямногіх асоб, якія за капейкі стануць уладальнікамі вялікага багацця.

Трэцяй асаблівасцю венгерскай прыватызацыі з'яўляецца пэўны накірунак прыватызацыйных сродкаў. Яны ідуць не ў бюджэт і не на пагашэнне дзяржаўнага доўгу, а накіроўваюцца на мадэрнізацыю прыватызацыйных мерапрыемстваў і стварэнне гарантыйных фондаў для банкаў, якія выдаюць крэдыты пад прыватызацыю.

Такая вось кароткая схема, ужытая ў Венгрыі, і якая — пры пэўных умовах — можа быць спраецыравана на Беларусь. Калі ж нам і далей ісці па шляху прадастаўлення льгот і зніжэння кошту, гэта прывядзе да карупцыі нябачных памераў.

Адным словам, як у той казцы: "Пойдзеш налева..." Вось і чакаем мы ад дзяржаўных мужоў выбару правільнага накірунку. Калі гэта ім пад сілу...

**А. МАМЕТАЎ,**
**эканамічны аглядальнік "ЛіМа"**

Перадрук

# ДЭМАКРАТЫЯ І ДЭМАС

Нягледзячы на адсутнасць у нашай краіне пасля 1917 года і да самага апошняга моманту класічнай адукацыі, практычна ўсе расіяне ведаюць, што ў перакладзе са старажытнагрэчаскай слова "дэмакратыя" азначае ўладу дэмаса, гэта значыць народа. Але наколькі існуючыя ў свеце сістэмы, што называюць сябе дэмакратычнымі, адпавядаюць гэтай назве? Калі падыходзіць да сітуацыі з фармальнага пункту погляду, дык варта прызнаць, што пераважна гэтак яно і ёсць: у дзяржавах з развітым дэмакратычным уладкаваннем улада знаходзіцца ў руках народа ці, правільней, тых людзей, якіх народ сам выбірае. У гэтых краінах рэгулярна праводзяцца ўсеагульныя выбары, прэса і тэлебачанне беспераШкодна рэалізоўваюць свае правы на свабоду інфармацыі, што дазваляе ім нясцтомна крытыкаваць урад; парламент, палітычныя партыі дзейнічаюць без усялякіх абмежаванняў і досыць сумленна змагаюцца за галасы выбаршчыкаў.

Сённяшні варыянт дэмакратычнай сістэмы — вынік доўгага эвалюцыйнага развіцця, у ёй скандэнсавалася чалавечая мудрасць і цярпімасць, назапашаныя за мінуўшыя стагоддзі, сканцэнтраваўся шматвяковы гістарычны вопыт. У дэмакратыі набыў сваё выяўленне інстынкт самазахавання грамадства, які знайшоў пасля працяглага пошуку цывілізаваную форму для сваёй рэалізацыі. Так што дэмакратыя несумненна з'яўляецца вялікім дасягненнем палітычнага будаўніцтва. Яе перавагі перад іншымі формамі палітычных сістэм заключаюцца ў тым, што, з аднаго боку, яна здольная забяспечыць няўхільнае эвалюцыйнае развіццё грамадства, а з другога — падтрымку і зберажэнне грамадскай стабільнасці. Такім унікальным спалучэннем не валодае ніводны з дэспатычных рэжымаў. Але ў дэмакратыі ёсць свае ахілесавыя пяты.

Перш за ўсё трэба ўказаць на небяспеку, якую ўяўляюць сабой празмерныя дэмакратычныя ілюзіі. Неразуменне сутнасці дэмакратыі, фетышызацыя яе ідэалаў прыводзяць нярэдка да сумных вынікаў. У многіх выпадках дэмакратыю ўспрымаюць як вышэйшую каштоўнасць, якую неабходна ахоўваць і абараняць пры любых акалічнасцях. У сапраўднасці ж усё крыху інакш — **сама па сабе дэмакратыя не валодае нейкай звышкаштоўнасцю**, яна не больш чым **інструмент** для дасягнення пэўных мэт, для вырашэння задач, што стаяць перад грамадствам. Яе можна параўнаць з рамай, у якой вісіць каштоўная карціна. І калі палатну нанесена шкода, дык аніякая акаймоўка не можа яго паправіць.

**Абсалютнай каштоўнасцю валодае не дэмакратыя, а свабода. Дэмакратыя — толькі спосаб яе найбольш поўнай рэалізацыі**, канкрэтная форма, у якой яна існуе ў сучасным свеце. Таму калі людзі імкнуцца абараніць адцягненыя дэмакратычныя прынцыпы, не суадносячыся з тым, ці спрыяе гэта захаванню альбо ўмацаванню свабоды, дык нярэдка ўзнікае сітуацыя, калі **занадта шырокая дэмакратыя пачынае пагражаць самому існаванню свабоды**. Такія прыклады добра вядомыя: звяржэнне бальшавікамі Часовага ўрада, які спрабаваў утрымацца ў межах дэмакратыі і закона і не змог своечасова нейтралізаваць іх праціўнікаў няхай сабе нават недэмакратычнымі метадамі; прыход нацыстаў да ўлады ў Германіі праз дэмакратычныя парламенцкія выбары... Такія дзіўныя на першы погляд калізіі адбываюцца з-за наяўнасці так званай дэмакратычнай насткі, механізм якой мы толькі што апісалі: грамадства адстойвае **не мэту, а сродак, не свабоду, а дэмакратыю**. Гэтай сітуацыяй лоўка карыстаюцца праціўнікі і свабоды, і дэмакратыі. Зыходзячы з тактычных меркаванняў, яны раптам пачынаюць заяўляць аб сабе як аб палымяных прыхільніках дэмакратычных прынцыпаў, якія яны быццам бы гатовыя адстойваць да апошняй кроплі крыві. (Гэтак часта і адбываецца — толькі кроў звычайна не іхняя, а ці сапраўдных абаронцаў дэмакратыі, ці падманутых імі людзей). Антыдэмакратычныя сілы даўно ўжо ўсвядомілі, што пры пэўных абставінах дэмакратычныя інстытуты становяцца досыць зручнымі для пад'ёму на вяршыні ўлады. Такая сітуацыя ставіць сапраўдных дэмакратаў перад складаным выбарам: для таго, каб уратаваць дэмакратыю ўвогуле, ім даводзіцца ахвяраваць асобнымі яе часткамі, а ў крытычныя сітуацыі і ўсёй дэмакратычнай сістэмай. Але падобная вымушаная мера дае падставы супрацьлегламу лагеру выкарыстоўваць бязмежную дэмагогію, абвінавачваючы сваіх праціўнікаў у парушэнні свяшчэнных прынцыпаў дэмакратыі, у імкненні да дыктатуры і г. д. У гэтай сувязі дарэчы прывесці словы нямецкага філосафа К. Ясперса:

"У рашучыя моманты заўсёды застаюцца выбары, у якіх удзельнічае ўсё насельніцтва дадзенай краіны. Аднак форма дэмакратыі, гэта значыць права на свабоднае, роўнае і тайнае галасаванне, зусім не з'яўляецца гарантыяй свабоды... Свабода, асабліва калі яна даецца народу, не падрыхтаванаму да гэтага самавыхаваннем, знячэўку можа не толькі прывесці да ахлакратыі і ўрэшце да тыраніі, але ўжо да гэтага спрыяць таму, што ўлада апынецца ў руках выпадкова ўзнесенай клікі, бо насельніцтва, па сутнасці, не ведае, за што аддае галасы...

Тое, як сапраўдную дэмакратыю абараняюць ад ахлакратыі і тыраніі, ад выпадковай клікі і духоўна залежных людзей, з'яўляецца жыццёва важным пытаннем свабоды. Неабходна стварыць стрымліваючыя інстанцыі, здольныя супрацьдзейнічаць самазабойчым тэндэнцыям фармальнай дэмакратыі. Абсалютны суверэнітэт большасці, якая выпадкова апынулася ў дадзены момант ля ўлады, павінен быць абмежаваны чымсьці стабільным".

Калі звярнуць асаблівую ўвагу на канец гэтай доўгай цытаты, дык узнікае адчуванне незавершанасці думкі. У чым жа заключаецца гэтае самае стабільнае, якое павінна нейкім чынам абмежаваць суверэнітэт людзей, што выпадкова аказаліся пры ўладзе? Адказу Ясперс не дае. Між тым ён надзвычай важны і патрэбны, бо ад таго, як вырашаецца ў той ці іншы гістарычны момант дадзеная дылема, нярэдка залежаць лёсы дзяржавы і нават усяго свету. Знайсці рашэнне гэтай праблемы няпроста, бо ў ёй знайшла адлюстраванне ўжо пазначаная намі калізія свабоды і дэмакратыі. Адносіны, якія ўзнікаюць між імі, гэта не толькі адносіны супрацоўніцтва і партнёрства, іх таксама падзяляе моцнае энергетычнае поле супярэчнасцей.

### 1.

Па традыцыі, радзімай дэмакратыі лічыцца Грэцыя. Але чаму яна ўзнікла менавіта там, чаму менавіта ў гэтай краіне яна набыла такое моцнае развіццё і гучанне? Разгорнем адну са старонак грэчаскай гісторыі. З 725 па 325 год да нашай эры Элада зведвала сур'ёзную нястачу прадуктаў харчавання. Як яна паспрабавала выйсці з крызісу? Гарады Карынф і Халкіда сталі накіроўваць сваё лішняе насельніцтва для каланізацыі іншых тэрыторый, дзе ўзнаўляліся парадкі метраполіі. Ва ўласцівым ёй стылі павяла сябе Спарта: для задавальнення зямельнага голаду яна захапіла, суседнія грэчаскія землі. Гэта стала адной з прычын глабальнай мілітарызацыі Спарты.

Інакш адрэагавалі на сітуацыю Афіны. Там паспрабавалі пераарыентаваць эканоміку на экспарт, адначасова стала заахвочвацца развіццё рамёстваў і гандлю. Гэта дало штуршок да змены палітычнай сістэмы: насяваючая сацыяльная рэвалюцыя была папярэджана дзякуючы выкарыстанню палітычных і эканамічных рэгулятараў і дэмакратызацыі грамадскага жыцця. Пазней гэтыя пераўтварэнні далі падставы Перыклу ахарактарызаваць дадзены перыяд школай для Элады.

(Адзначым, што падобная сітуацыя паўтаралася пасля ў гісторыі бясконцую колькасць разоў. І заўсёды пры яе вырашэнні ўзнікала, умоўна кажучы, спартанская дылема: ісці па шляху знешняй экспансіі і ўнутранай рэакцыі ці здзяйсняць глыбокія сацыяльныя і дэмакратычныя пераўтварэнні?)

Аб чым сведчыць гэтая гістарычная рэмінісцэнцыя? Патрэба ва ўсталяванні дэмакратычнага рэжыму паяўляецца там, дзе на той момант існуе найвышэйшы ўзровень свабоды. У свабодзе ж мелі патрэбу перш за ўсё тыя грамадствы, дзе сур'ёзнае развіццё атрымалі гандаль, рамесніцкая вытворчасць, гэта значыць там, дзе ўжо існаваў досыць глыбокі падзел працы. Патрэба ў свабодзе ў такіх грамадскіх сістэмах узнікае яшчэ і таму, што і занятак гандлем і рамяствам вымагае ініцыятывы і асабістай зацікаўленасці ў выніках сваёй дзейнасці. Гэта прыводзіць да паяўлення адносна незалежнага і самастойнага пласта людзей, якія не выносяць над сабой грубага прымусу. Такія тэндэнцыі асабліва яўна праяўляліся ў марскіх цывілізацыях, бо займацца мараплаваннем, марской камерцыяй маглі толькі свабодныя члены грамадства. У сваю чаргу свабода, каб не ператварыцца ў анархію, вымагала пэўнай грамадскай арганізацыі, якая і вылілася ў сістэму, што атрымала назву дэмакратыі.

Вядома, наяўнасць развітога гандлю, хай нават марскога, зусім не азначае аўтаматычнай перамогі дэмакратыі: **грамадства знаходзіцца ў стане перманентнага вагання паміж свабодай і дэспатыяй**. Нават краіны, дзе, здавалася б, дэмакратычныя інстытуты ўкараніліся глыбока і на першы погляд беспаваротна, патэнцыяльна знаходзяцца ў тым жа стане. Выпадак жа з Афінамі адзін з нямногіх, дзе народ аддаў перавагу свабодзе. Гэтае лёсаноснае рашэнне прывяло да таго, што ў гэтай маленечкай дзяржаве аказаліся выпрацаванымі тыя прынцыпы, упершыню прайшлі апрабацыю тыя ідэі, якія пасля ў значнай ступені вызначылі шлях і характар развіцця еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі. Пры гэтым гаворка зусім не ідзе аб ідэалізацыі Афінскай дзяржавы: дэмакратыя, якая там існавала, была вельмі недасканалая, нестабільная — то яна пераўтваралася ў форму ахлакратыі, то ўлада пераходзіла да арыстакратыі. Гэтая дэмакратыя праследвала вальнадумства (прыгадаем пакаранне смерцю Сакрата), праводзіла імперскую палітыку (Пелапанескія войны за першынство Афін у Грэцыі). І ўсё ж той узровень свабоды, які быў тады дасягнуты, дазволіў зрабіць такі крок наперад у развіцці сацыяльнай думкі, што нават і цяпер мы пастаянна звяртаемся да гэтай спадчыны.

Старажытная Грэцыя аказалася першай краінай, якая паспрабавала ажыццявіць ідэю свабоды на дзяржаўным узроўні. Між тым праблема свабоды асобы ўзнікла ці не адразу, як толькі чалавек усвядоміў сябе самастойнай, унікальнай сутнасцю. Аднак свабода доўгі час не ўспрымалася архаічнымі грамадствамі як самастойная каштоўнасць. Так пачалі ўзнікаць рознага роду дэспатыі. Другі шлях быў куды больш цяжкі і доўгі, яго выбралі толькі нямногія нацыі і дзяржавы: ён праходзіў праз стварэнне палітычнай сістэмы, якая не адбірала б у народа свабоду, а знаходзіла спосаб уключыць яе ў дзяржаўны палітычны механізм. Так узнікла дэмакратыя.

Як ужо адзначалася, **дэмакратыя ёсць толькі форма, у якой выступае свабода**, так бы мовіць, яе віцмундзір. Крой жа мундзіра вызначаецца ўзроўнем развіцця грамадства, той ступенню свабоды, якую яно ў стане дазволіць сабе, каб не выклікаць разбуральных тэндэнцый. Гаворка ідзе аб каналізацыі свабоды, аб накіраванні яе па тых рэчышчах, дзе яна здольная стаць вільгаццю для арашэння сацыяльнай глебы, а не селевым знішчальным патокам.

М. Бярдзяеў пісаў: "Прымусовае дабро не ёсць ужо дабро, яно перараджаецца ў зло. Свабоднае ж дабро, якое ёсць адзінае дабро, прадугледжвае свабоду зла".

Дэмакратыя спрабуе знайсці кампраміс, нейкі прамежкавы стан між той абсалютнай свабодай, якая аднолькава расчыняе дзверы дабру і злу, і той прымусовай свабодай, якая ўжо ёсць не бязмежнае дабро, але якая хоць неяк абмяжоўвае распаўсюджанне зла. У гэтай няпростай антыноміі і заключаецца галоўнае пытанне дэмакратыі.

### 2.

Адносіны, якія складваюцца паміж свабодай і дэмакратыяй, непазбежна падводзяць нас да другой тэмы — пра ўзаемаадносіны народа і свабоды, народа і дэмакратыі.

Мы прывыклі бачыць у свабодзе найвялікшую каштоўнасць, якая дадзена чалавеку. Гэта безумоўна так, бо ўсё ягонае развіццё і ёсць набыццё свабоды, яе рэалізацыя, вызваленне сябе з палону неабходнасці. Але гэта, так бы мовіць, асноўны

*(Працяг на стар. 14)*

Адгалоскі

# ЗАБЛЫТАНЫЯ КАРАНІ

## ЯШЧЭ ПРА БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ

Пэўна, шмат каго зацікавіў артыкул беластоцкага беларуса Алега Латышонка "Беларуская нацыянальная ідэя" ("Свіцязь. Гістарычна-культурны часопіс Гарадзеншчыны". 1994. N 2). Спроба паставіць праблему, якая раней — па вядомых прычынах — не распрацоўвалася, заслугоўвае ўвагі, але яе вырашэнне А. Латышонкам, на нашу думку, вельмі супярэчлівае ды не зусім адпавядае гістарычным фактам.

Перш-наперш нельга назваць слушным імкненне даследчыка звязаць станаўленне беларускай нацыянальнай ідэі з першымі згадкамі Alba Russii ў пэўных іншамоўных крыніцах. Аніводзін усходнеславянскі летапіс XI—XVII стагоддзяў не ведае тэрміна "Белая Русь", дык зусім неверагодна, каб існаваў ён у мове жыхароў Полаччыны ці Магілёўшчыны як саманазва. Alba Russiu з "Апісання земляў" (Дублінскі рукапіс) толькі з вялікімі намаганнямі можна дастасаваць да тэрыторыі сучаснай Беларусі. Даволі дзіўным здаецца той факт, што місіянер Вайслан сустрэўся тут ... з карэлам. Больш праўдападобна, што Alba Russia знаходзілася на поўначы Расіі (белая ад снегу?), паблізу ад карэльскіх земляў. Дарэчы, апісваючы землі, аўтар нічога не кажа пра размяшчэнне Alba Russii, хоць даволі дакладна падае становішча Літвы, Русі ды іншых, нават дробных краін. Неймаверна, але не карыстаўся, а значыць не ведаў тэрміна "Белая Русь" Францыск Скарына — палачанін, патрыёт свайго краю. Усё гэта наводзіць на думку, што толькі напрыканцы XVII—XVIII стагоддзяў гэтае найменне замацавалася за жыхарамі Віцебшчыны і Магілёўшчыны. І няма падстаў гаварыць пра "Белую Русь" як пра саманазву: тэрмінам у XIII—XVII стагоддзях карысталіся ці не выключна іншаземцы. Чаму? Пытанне застаецца адкрытым. Саманазва ж нашых продкаў у эпоху Сярэднявечча — літва, літвіны альбо русь, русіны. Калі будзе абгрунтавана даведзена, што літва — славянскае племя, дык усё стане на свае месцы, стане зразумелым, чаму найменне "русь" за параўнальна кароткі перыяд дастасавалася да аграмаднае прасторы. На нашу думку, звязана гэта з пашырэннем хрысціянства ўсходняга абраду сярод усходніх славян, у большай альбо меншай ступені залежных ад Кіева. Тыя літвіны, што прынялі хрысціянства, сталі называцца руссю, іншыя — захавалі сваё ранейшае найменне. Утворанае на славянскіх землях у XIII стагоддзі Вялікае княства Літоўскае толькі тады назвалася Рускім, калі ў ягоны склад увайшлі Кіеўскія землі — першапачатковая Русь. А вось рускім называецца насельніцтва не толькі Кіеўшчыны, але і праваслаўныя іншых частак Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага.

Такім чынам, дзякуючы царкве, канфесіёнім "русь" у хуткім часе ператварыўся ў этнонім.

Найменні "Белая Русь", "беларускі", "беларусец" у адносінах да нашых земляў з'яўляюцца толькі напрыканцы XVII стагоддзя ў часе войнаў Маскоўскай дзяржавы з Рэччу Паспалітай. Відаць, менавіта ад маскоўцаў зыходзіла ініцыятыва назваць насельнікаў сумежнага гаспадарства (тых, хто вызнаваў рускую (праваслаўную) веру) беларусцамі. Пэўныя адрозненні (мова, лад жыцця ды іншае) не дазвалялі Маскве называць праваслаўных літвінаў гэтак жа, як і насельнікаў уласнае дзяржавы. Таму выкарыстанне тэрміна "беларусы" было надзвычай удалым: гэта давала Расіі мажлівасць пераканаўча абгрунтоўваць сваю захопніцкую палітыку.

У 1686 годзе Масковія і Рэч Паспалітая падпісалі Грымултоўскі трактат, паводле якога кіеўскі мітрапаліт (Кіеў з 1654 года ў складзе Расіі) станавіўся на чале праваслаўнай царквы Вялікага княства Літоўскага. Магілёўскі епіскап пачынае афіцыйна называцца беларускім. Саперніцтва цэркваў паспрыяла таму, што ў хуткім часе і каталіцкія іерархі ўсходніх рэгіёнаў называюцца беларускімі. Жорсткая рэлігійная барацьба, ганенні на праваслаўных, каталізацыйная палітыка езуітаў і польскага касцёла — усё гэта прымусіла "беларусцаў" шукаць дапамогі. Праваслаўныя іерархі (Іеранім Ваўчанскі, Георг Каніскі, Мельхіседэк Яворскі, Феафан Леантовіч) пачынаюць усё часцей і часцей звяртацца да Масковіі. Яны дамагліся, што ў Варшаве пры расійскім паслу знаходзіўся спецыяльны камісар, якому праваслаўныя дасылалі скаргі пра ганенні. Часам гэтыя скаргі накіроўваліся непасрэдна да цара. Найбольш яскравы прыклад — чалабітная Г. Каніскага на імя Кацярыны II, дзе магілёўскі епіскап настойліва раіць імператрыцы даслаць каралю Рэчы Паспалітай ультыматыўную грамату, як зрабіў гэта ў 1722 годзе Пётр I.

Яшчэ больш катэгарычнай была запіска Ф. Леантовіча ад 24 лістапада 1762 года, у якой ён адказваў на запыт "какая политическая польза может последовать Российскому нашему государству по случаю защищения грекороссийских наших в польском государстве исповедников" наступным чынам: "Российскому нашему государству можно будет на 600 верст самой лучшей и плодороднейшей земли, с бесчисленным православным народом, пред всем светом праведно и правильно у поляков отобрать". (В. Ключэўскі ў "Курсе русской истории" падаў гэты факт, як нібыта сказанае адным з ігуменаў у часе каранацыі Кацярыны II.)

Праваслаўныя іерархі абаранялі сваю веру і толькі веру. Сцвярджэнне А. Латышонка, што ў XVIII стагоддзі "адзіным ідэйным барацьбітом за беларушчыну быў беларускі праваслаўны епіскап Каніскі", не зусім карэктнае. Кацярына II (з дапамогаю Г. Каніскага) гуляла беларускаю картаю, вядома, не дзеля таго, каб інспіраваць беларускую думку, беларускае пытанне, беларускую аўтаномію. Як пакажа разгортванне падзей, гэта карта сталася часовым інструментам у руках царызму: лічаныя гады губерні называліся беларускімі, а пасля гэты тэрмін Мікалай I увогуле забараніў.

Але справа была зроблена. Узнікла база дзеля станаўлення беларускай нацыянальнай ідэі.

Тут варта зазначыць, што беларускі, вобразна кажучы, сцяг напрыканцы XVIII стагоддзя перахапілі ў праваслаўных езуіты, каб аддзячыць Кацярыне II за дазвол ордэну працягваць дзейнасць на тэрыторыі Расійскай імперыі. Езуіты пачалі называцца беларускімі, пачалі называць сваіх студэнтаў і шкаляроў беларусамі. А з тае прычыны, што уніяцкія святары навучаліся ў езуітаў, дык і Уніяцкая царква спрычынілася да пашырэння беларускай самасвядомасці сярод насельнікаў былога Вялікага княства Літоўскага.

У той час на тэрыторыі сучаснай Беларусі існаваў грунт дзеля ўзнікнення шэрагу нацыянальных рухаў. Лепш за ўсё пачуваліся літвіны. Іхняя "партыя" была наймацнейшай. Праўда, рымская легенда, што ляжала ў аснове літвінскага міфа, скіравала іхнюю дзейнасць у жамойцкі бок: узнікае тэзіс пра жамойцкую мову як родную мову старажытных літвінаў. Ідэолагі літвінскага руху імкнуцца давесці сваё неславянскае паходжанне: гэта, на іх думку, павінна абгрунтаваць беспадстаўнасць русіфікацыі літвінаў. (Нічога супраць русіфікацыі беларусаў яны не мелі). Дзякуючы Т. Нарбуту, узнікае цэласная канцэпцыя літвінскай гісторыі.

Нешматлікай, але надзвычай моцнай на Беларусі была "польская партыя". Яна мела ўплыў на літвінскую "партыю", імкнулася давесці, што ў тагачасных умовах барацьба з Масквою павінна ісці пад рэчыпаспалітаўскім (польскім) сцягам. З тае прычыны, што польская мова і касцёл лучылі літвінаў з палякамі, літвінскі рух не мог адасобіцца ад польскага.

Беларускі рух сваё станаўленне пачаў толькі ў трыццатыя гады XIX стагоддзя. Нейкі час ягоная дзейнасць ішла ў рэчышчы агульнага рэчыпаспалітаўскага руху. Яно й нядзіўна! Беларусы — выхаванцы езуітаў — яшчэ добра памяталі пра сувязі, якія лучылі іх з іншымі насельнікамі Вялікага княства Літоўскага. Крыху пазней, калі выхаваннем беларусаў занялася расійская школа, беларускі рух раздзяліўся на дзве плыні: адна з іх па-ранейшаму гарнулася да літвінскага ды рэчыпаспалітаўскага руху, другая стала на прарасійскія пазіцыі.

Зрэшты, у другой палове XIX стагоддзя гэтая прарасійская плынь беларускага руху перастае быць беларускай, гэтая плынь хутка прыйшла да "западноруссизма". Яе прадстаўнікі становяцца "истинно русскими людьми", што, трэба сказаць, і было пажаданым ды лагічным завяршэннем гульні царызму з "беларускаю картаю".

Аднак, як мы ўжо сказалі, беларускі рух складаўся з дзвюх плыняў. І калі адна з іх, прарасійская плынь, вяла рух да згубы, дык іншая здолела вылучыцца са свайго асяроддзя прадстаўнікоў, што сфармавалі беларускую нацыянальную ідэю.

Першыя праявы беларускага руху заўважаюцца ў літаратурнай працы Каятана Касовіча, які ў 1835 годзе ў газеце "Молва" (NN 21 і 50) пісаў пра беларускія народныя песні.

Больш паспяховай беларускай працай трэба лічыць літаратурную і грамадскую дзейнасць братоў Грымалоўскіх — Валяр'яна, Клеменса, Юльяна. Менавіта яны ўпершыню ў гісторыі беларускага прыгожага пісьменства ў тытуле выдадзенага ў Пецярбурзе ў 1837 годзе польскамоўнага трохтомніка сказалі пра сваю нацыянальную прыналежнасць: "Вершаваныя творы трох братоў, Валяр'яна, Клеменса, Юльяна Грымалоўскіх, беларусаў". Замілаванне да беларускага фальклору, да звычаяў народа прыводзіць Грымалоўскіх да думкі пра неабходнасць творчасці на мове свайго народа. Мажліва, яны не былі першымі, хто разважаў над гэтым пытаннем, але ўпершыню ў пісьмовых крыніцах зафіксавана менавіта іхняе свядомае стаўленне да літаратурнай працы на беларускай мове. Вядомы тагачасны паэт Аляксандр Гроза ў лісце крытыку і пісьменніку Міхалу Грабоўскага ад 16 чэрвеня 1841 года пісаў: "Браты Грымалоўскія хочуць свой беларускі дыялект вывесці з усеагульнага забыцця. (...) Заахвочваю — як магу — гэтых найлепшага жадання маладых людзей. Я не так даўно пісаў да аднаго з іх, выказваючы яму, якая яго чакае слава, калі пакладзе кутні камень новай, славянскага роду літаратуры". І хоць беларускамоўных твораў братоў Грымалоўскіх мы сёння не ведаем, аднак лісты Яна Баршчэўскага да Юлі Корсак-Шапялевіч сведчаць, што на пачатку 40-х гадоў XIX стагоддзя Грымалоўскія знаходзіліся ў цэнтры літаратурна-грамадскага жыцця Беларусі.

Але найбольш плённай у распрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі была літаратурная і грамадская дзейнасць Яна Баршчэўскага. Сучаснікі сведчаць пра палымяны з юначых гадоў беларускі патрыятызм засцянковага шляхціца з Полаччыны. (Уніяцкі, а пазней праваслаўны епіскап Антоні Зубко ў часопісе "Русский вестник", т. 53 за 1864 год гаворыць, што Я. Баршчэўскі, яго далёкі сваяк, быў сынам уніяцкага святара з вёскі Мурагі, аднак хаваў сваё паходжанне). У часе вучобы ў Полацкай езуіцкай Акадэміі і гувернёрства на Беларусі ён пісаў літаратурныя творы на беларускай мове. Мова твораў вызначалася асяроддзем, дзеля якога яны пісаліся. Пераезд Я. Баршчэўскага ў Пецярбург, уплыў А. Міцкевіча, польскамоўных рамантыкаў прадвызначылі зварот паэта да творчасці на польскай мове. Але жыццё ў Пецярбурзе пазбавіла яго ад уплыву польскай ідэалогіі. Кола яго знаёмых абмяжоўваецца выхадцамі з Беларусі, патрыятызм якіх насіў беларускі характар. Добрае веданне Беларусі, яе народа, традыцый і гісторыі вылучае Я. Баршчэўскага ў асяроддзі пецярбургскіх беларусаў. Ён карыстаецца павагаю землякоў.

Знаёмства з Т. Шаўчэнкам падштурхнула паэта да выкарыстання ў сваёй творчасці (дасюль рэлігійна-сентыментальнай) беларускіх легенд і паданняў. Так узнікаюць балады "Русалка-зводніца", "Дзявочая крыніца", "Дзве бярозы", "Зараслае возера". Вядома, і да знаёмства з Кабзаром Я. Баршчэўскі любіў і ведаў свой край (таму ён і зацікавіў Вялікага Украінца), але цяпер узнікае жаданне служыць Бацькаўшчыне, аддаючы ёй свае веды. Менавіта цяпер ён згаджаецца стаць выдаўцом-рэдактарам альманаха "Незабудка", разумеючы, што нават такое малое выданне можа зрабіць шмат дзеля абуджэння літаратурна-грамадскай думкі на Беларусі.

З'яўленне ў "Незабудцы" балад Я. Баршчэўскага прыцягнула да іх увагу крытыкі: паэту раяць (М. Грабоўскі, Л. Штырмер, Р. Падбярэскі) перадаць змест балад прозаю. Так узнікае думка напісаць твор пра Беларусь, каб расказаць пра гэты малавядомы, але самабытны край свету і землякам. Можа, у першую чаргу землякам. Але Я. Баршчэўскі адмовіўся ад простай перадачы сродкамі польскай мовы беларускіх легенд і паданняў; ён не збіраўся дагаджаць польскай крытыцы, якая чакала ад яго напаўфальклорных зборнікаў. Ягоны "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" — гэта гімн роднай Беларусі, гэта сцвярджэнне яе самабытнасці, рэгіянальнай адасобленасці. Беларусь — гэта фантазія, гэта утопія, гэта мара. Пісьменнік спрабуе даць геаграфічнае апісанне краю, ягонай гісторыі, эканамічнага стану. З дапамогай сістэмы вобразных сродкаў Я. Баршчэўскі выказвае беларускую нацыянальную ідэю. (Пра гэта больш падрабязна гл. у нашым артыкуле "Ля вытокаў беларускае нацыянальнае ідэі". ("Полымя", 1994, N 11).

Беларускі нацыянальны рух 40-х гадоў XIX стагоддзя не здолеў цалкам сфармавацца і адасобіцца, але патрыятычныя памкненні нацыянальна свядомых прадстаўнікоў беларускага грамадства якраз і знайшлі сваё выяўленне ў выказанай Я. Баршчэўскім беларускай нацыянальнай ідэі. Гісторыка, як Т. Нарбут у літвінаў, беларусы ў той час не вылучылі са свайго асяроддзя, дык жывілі нацыянальную ідэю толькі літаратура ды фалькларыстыка. Асабліва значнымі былі працы А. Рыпінскага ("Беларусь"), І. Храпавіцкага ("Погляд на паэзію беларускага люду"), Р. Падбярэскага ("Беларусь і Ян Баршчэўскі" ды "Лісты пра Беларусь"), літаратурныя творы А. Грот-Спасоўскага, Т. Лады-Заблоцкага ды інш. Усё гэта стварала аўру вакол беларускай нацыянальнай ідэі.

Магутны зарад нацыянальнай энергіі, што несла кніга Я. Баршчэўскага "Шляхціц Завальня", так ці інакш уздзейнічаў на беларусаў, абуджаючы іхнюю нацыянальную свядомасць. Непасрэдным прадаўжальнікам працы Я. Баршчэўскага ў 50—60-я гады XIX стагоддзя стаўся віцяблянін Арцём Вярыга-Дарэўскі. Ягоная літаратурна-грамадская праца прывабіла да беларускай справы нават асобных прадстаўнікоў літвінскага руху (В. Дунін-Марцінкевіч, У. Сыракомля, В. Каратынскі).

У сярэдзіне XIX стагоддзя беларуская нацыянальная ідэя спакваля працягвала сваё станаўленне, яна ўцягвала ў арбіту свайго ўздзеяння ўсё больш шырокія грамадскія колы з заходніх правінцый Расійскай імперыі. Вынішчэнне М. Мураўёвым у 1863—1864 гадах літаральна ўсяе апазіцыі да царызму на нейкі час запаволіла развіццё беларушчыны, але ўжо напрыканцы 80-х гадоў XIX стагоддзя ідэя Я. Баршчэўскага і ягоных наступнікаў знаходзіць сваіх новых прыхільнікаў. Паказальна, што сярод першых быў Карусь Каганец, сын высланага (мажліва, разам з А. Вярыгам-Дарэўскім) у Сібір паўстанца 1863 года.

Такім нам бачыцца шлях развіцця беларускай нацыянальнай ідэі ў XVIII—XIX стагоддзях. "Прывязванне" гэтага працэсу А. Латышонкам да Беласточчыны, на нашу думку, не можа лічыцца аб'ектыўным. Усе вядомыя сёння дакументы пярэчаць таму, што М. Баброўскі стаяў ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі. М. Баброўскі і ягоныя аднадумцы ніколі не карысталіся тэрмінам "беларускі". Яны называлі сябе русінамі альбо рускімі ці нават літвінамі (напрыклад, І. Даніловіч называў мову Супрасльскага летапісу літвінскаю). Іх перш за ўсё хваляваў стан Уніяцкае царквы, якую ў часы Аляксандра І каталікі ледзь не "ўз'ядналі" (асабліва ў заходніх раёнах Беларусі) з рыма-каталіцкім касцёлам. (Раім пазнаёміцца з фондам 824 у ЦДГА С.-Пецярбурга.)

Не можам пагадзіцца мы і са сцвярджэннем, што "ў другой палове XIX стагоддзя завяршаецца стварэнне беларусамі ўласнае гісторыі (Гурыновіч) і ўласнага этнагенетычнага міфа пра крывіцка-полацкія карані беларускае нацыі", бо гэты міф узнік якраз у 30-я гады XIX стагоддзя (гл.: І. Храпавіцкі, "Погляд на паэзію беларускага люду", прадмовы Я. Чачота да зборнікаў "Вясковыя песенькі").

Зусім не кампетэнтнымі атрымаліся развагі шаноўнага гісторыка пра праблемы беларускай літаратуры XIX стагоддзя. А. Латышонак цалкам адмаўляе існаванне ў ёй "праяў беларускай нацыянальнай ідэі". Нават у творах Ф. Багушэвіча. А В. Дуніна-Марцінкевіча аўтар артыкула ўвогуле лічыць паланізатарам: "утрымоўваў польскую школу". І гэта той, хто назваў адну са сваіх кніжак "Беларускі Дудар", паланізатар? А хіба няма "праяў беларускай нацыянальнай ідэі" ў ягоных "Літаратурных клопатах"? Творы В. Дуніна-Марцінкевіча, напісаныя дзеля адукацыі ды выхавання цёмнага вясковага люду, не маглі мець "праяў нацыянальнай ідэі", бо сталіся б незразумелымі (згадайма: "вы, дзетачкі, гэтага не паймёце"!) чытачу. Тое ж можна сказаць і пра большасць твораў Ф. Багушэвіча: толькі прадмовы і асобныя вершы ("Хмаркі") у даступнай форме неслі гэтую ідэю. Зусім іншая справа, калі літаратар звяртаўся да адукаванага чытача на польскай

(Працяг на стар. 12)

## ШМАТ ІМЁНАЎ, ШМАТ ТВОРАЎ

**І ў апошняй за мінулы год кніжцы часопіса "Першацвет". Дванаццаты нумар — гэта вершы Н. Русіян, А. Гурскага, В. Барысюка, В. Корбута, Л. Барадзейкі, Н. Раманенкі, А. Дуброўскага, В. Худаўца, Н. Насульскай. Старонкі прозы прадстаўлены творамі З. Вішнёва, Л. Рублеўскай, М. Канановіча, І. Хадарэнкі, В. Чаркоўскай, С. Мандрыка.**

**У раздзеле "Гасцёўня" з апавяданнямі выступае А. Кірвель, з вершамі — І. Карэнда. З паэтам складанага лёсу В. Губарэвічам знаёміць у раздзеле "Повязь" С. Чыгрын. Тут жа апублікаваны некалькі твораў гэтага аўтара.**

**М. Тычына асэнсоўвае творчы шлях У. Рубанава ("Пішацца — як ніколі"). В. Уласевіч рэцэнзуе кнігу М. Лукшы "Выспа" ("Выспа трагедый і выратаванняў"). Чытацкай увазе прапануецца крытычнае эсэ Я. Крыцкага "Па законе інерцыі". У "Жароўні" — гумарэска У. Цішурова "Калістрат". "Першацвет" прадстаўляе мастака К. Шапашнікаву.**

## КАМЕНЬ ФІЛАМАТАЎ



**Непадалёк ад вёскі Каргова, што пад Баранавічамі, ёсць унікальны валун (на здымку). У народзе яго называюць "Вялікі камень" або "Камень філаматаў". У мінулым стагоддзі каля гэтага каменя бывалі Тамаш Зан, Ігнат Дамейка, Ян Чачот, Адам Міцкевіч і іншыя пісьменнікі, паэты, асветнікі Беларусі. Унікальны валун навяваў свежыя думкі, жывіў творчасць.**

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛІНФАРМ*

## НАШ РЫГОРКА — У ПЯТРУШКІ

**Берасцейскі тэатр лялек меў гонар прадстаўляць Беларусь на Міжнародным свяце "У Пятрушкі", якое адбывалася ў Маскве ў Цэнтральным акадэмічным тэатры лялек імя С. Абразцова. У госці да расійцаў завіталі калектывы лялечнікаў з Украіны, Польшчы, Італіі, Швейцарыі. Свае спектаклі, большай часткай каляднай тэматыкі, рэпрэзентавалі тэатры лялек з розных куткоў самой Расіі. А берасцейцы паказалі на свяце адну са сваіх лепшых работ — спектакль "Рыгорка — ясная зорка" па п'есе А. Вярцінскага ў пастаноўцы Алега Жугжды. У выкананні Тамары Тэвасян, Івана Герасевіча, Уладзіміра Зайцава ды Юры Цеслі наш Рыгорка быў сустрэты маскоўскім Пятрушкам досыць прыхільна і ці то па-братэрску, ці то па-суседску цёпла.**

## РОЗНЫЯ ЖАРТЫ, БЛЮЗНЕРСТВЫ ДЫ ШТУКІ!

**Рэальныя гістарычныя персанажы — берасцейскія скамарохі мінулага стагоддзя Ціт, Гарман і Гарасім — будуць дзейнічаць у новай пастаноўцы "Штукары" Берасцейскага тэатра лялек, прэм'ера якой падмеркавана да трэцяга Міжнароднага фестывалю тэатраў лялек. Увасабляць на сцэне п'есу Ігара Сідарука, у аснову якой пакладзеныя мясцовыя легенды ды паданні (іх якраз і распавядаюць скамарохі-штукары), узяліся адразу два рэжысёры — Сяргей Палешчанкаў ды Зміцер Нуянзін. Арыгінальную сцэнаграфію ды лялькі, імітаваныя пад дрэва, салому і гліну, прапанаваў тэатру мастак Валеры Рачкоўскі. А ці зажывуць на берасцейскай сцэне сапраўдным жыццём "Штукары" — будзе вядома вясною.**

**І. Х.**



***У апошнія гады акадэмічныя мовазнаўцы сталі часта выступаць на старонках газет, знаёміць грамадскасць з працай і планамі Інстытута мовазнаўства АН Беларусі. І гэта вельмі добра. Мы павінны ведаць, якія захады робяць навукоўцы, адгукаючыся на голас часу, каб наша літаратурная мова належным чынам выконвала свае функцыі.***

Алесь КАЎРУС

# ДЫК ДЗЕ "ХАОС"?

Неяк "Наша слова" (5. 10. 94) змясціла гутарку з дырэктарам Інстытута мовазнаўства А. Падлужным. Кіраўнік акадэмічнай установы паведамляе, у прыватнасці, пра падрыхтоўку навуковай граматыкі. Яна задумана як больш даступная за папярэднюю (1962 г.), дзе "вельмі падрабязна пададзена варыянтнасць усіх зменных слоў", і не будзе даваць "асабліва строгіх рэкамендацый". Такі падыход уяўляецца рацыянальным. Бо хто ж наважыцца адразу і беспамылкова вызначыць з некалькіх варыянтаў самы прыдатны, а вызначыўшы адзін, адкінуць астатнія?

Хочацца думаць: лінгвісты зафіксуюць літаратурныя нормы з улікам нацыянальнай спецыфікі мовы, якая ў цяперашнім "хаосе" (улюбёнае вызначэнне акадэмічных навукоўцаў) акурат і пачынае найпаўней узнаўляцца. На жаль, сапраўдныя намеры мовазнаўцаў недзе між радкоў. Такі ўжо іх стыль. Дырэктар інстытута распавядае: "Цяпер з'явілася некалькі работ, дзе прыводзіцца статыстыка не толькі тых форм, якія ўжываюцца ў літаратуры пасля 1933 года, але ўжываліся і да 1933 года. У кніжку ўключаецца таксама важны даведачны матэрыял (? — **А. К.**) для кожнага, хто карыстаецца беларускай мовай, і, безумоўна, будзе нейкая арыентацыя пры падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы школьных падручнікаў".

Можа, гэтыя "статыстыка" і "даведачны матэрыял" паслужаць на карысць беларускай мове. Але вось чамусьці ў сваім расповядзе акадэмік дэманструе невясёлую статыстыку: дзесяць разоў ужывае слова *работа* і толькі двойчы бясспрэчна нарматыўнае — *праца*. На рускі ўзор ён будуе фразу: "Мы перабралі дзесяткі варыянтаў **па кожнаму пункту правіл**..." А быў жа час, калі А. Падлужны ў сваіх навуковых **працах** ужываў прыназоўнік па ў адпаведнасці з беларускай граматыкай — з месным склонам: "класіфікацыя зычных **па спосабу** і **месцы** артыкуляцыі" (А. І. Падлужны, В. М. Чэкман. Гукі беларускай мовы. Мн., 1973).

Няшмат прасвятляе навуковую пазіцыю аўтараў новай граматыкі і крыху ранейшая інфармацыя А. Падлужнага (гл. "Навіны Акадэміі навук Беларусі" за 9.09.94): яна (новая граматыка) "не апісальнага тыпу ўсіх магчымых граматычных нормаў і правіл, а **найбольш распаўсюджаных і зручных** для ўжывання" (падкрэслена мною. — **А. К.**).

Такія крытэрыі вызначэння (выбару?) нормы небеззаганныя. Часам большую пашыранасць мае варыянт з тымі ці іншымі парушэннямі законаў беларускай мовы. Як прыклад згадаем словы *светасігнал, язычаства, абслугоўваючы* (прыметнік), што ўжываліся не адно дзесяцігоддзе ў літаратурнай мове, а потым выцесніліся словамі *святлосігнал, язычніцтва (паганства), абслуговы (абслугоўчы).* А што значыць "зручны для ўжывання"? Тым, каму беларуская мова не родная, нязвыклая, зручнейшымі, відаць, будуць формы, агульныя з рускай мовай, напрыклад, формы назоўнікаў роднага склону множнага ліку з нулявым канчаткам: *пяць партызан, сучасных норм, новых кафедр, істотных рыс, гэтых правіл, асабовых імён.*

Увогуле ж падстаў для панікі і страху няма, калі змена нормаў адбываецца натуральна, без валюнтарызму з боку кадыфікатараў. "Літаратурная мова, якой бы багатай і апрацаванай яна ні была, адзначаў акад. М. Бірыла, не мае раз назаўсёды замацаваных норм. У кожнай літаратурнай мове адбываецца паступовае (!) намнажэнне фактаў, моўных сродкаў, якія прыводзяць да пэўных змен, да эвалюцыі нормы, новага элемента ў развіцці мовы" (з прадмовы да "Слоўніка беларускай мовы", Мн., 1987).

Дык майма на ўвазе: нормы хутка (праз 10—20 гадоў) не змяняюцца. І калі сёння мовазнаўцы заяўляюць (гл. "Высновы" камісіі па ўдакладненні правапісу), што "існуе неабходнасць у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў", то гэта не можа не насцярожваць.

Як вядома, нормы і правілы літаратурнага вымаўлення даволі грунтоўна распрацаваныя (даследаванні М. Бірылы, Ф. Янкоўскага, А. Падлужнага), яны знайшлі адлюстраванне ў "Слоўніку беларускай мовы" (1987) пад рэдакцыяй акад. М. Бірылы. Названы слоўнік з'яўляецца даведнікам па арфаграфіі, арфаэпіі, акцэнтуацыі і словазмяненні. У ім вырашаецца задача падаць узорнае літаратурнае вымаўленне па магчымасці найбольшай колькасці слоў. У прыватнасці, абазначана асіміляцыйная мяккасць зычных: *асьвістаць, зьява, асіньнік, касьсё, хлусьня, прысьпічыць, прызьбе.*

Што ж разумець тады пад выразам "выпрацоўка арфаэпічных нормаў"? Адыход ад прынятых і ўсталяваных у маўленчай практыцы правілаў? Падумаць так ёсць падставы. Не змаглі ж члены камісіі дасягнуць "адзінства... у адносінах ужывання мяккага знака на пісьме..." Выходзіць, не ўсе ў камісіі заклапочаныя тым, каб захаваць адметную рысу беларускай фанетыкі — асіміляцыйную мяккасць зычных гукаў.

А вось ужо адкрытая заява А. Падлужнага, што ў "Слоўніку беларускай мовы" (1987) пад рэдакцыяй М. Бірылы ёсць "нямала памылак" ("Наша слова" 5.10.94). Што гэта? Традыцыйная аддзяка вучня свайму настаўніку ці чыстасардэчнае прызнанне ў шматлікіх недахопах і **сваёй** працы? Доктар філалагічных навук А. Падлужны ўваходзіў у склад рэдкалегіі слоўніка. Спатрэбілася стаць акадэмікам, каб заўважыць "нямала памылак" (на жаль, не канкрэтызуецца — якіх). А можа, тут зусім і не памылкі, калі іх ільга разгледзець толькі вокам акадэміка? Магла ж проста адбыцца эвалюцыя поглядаў вучонага.

У планах навукоўцаў — значна папоўніць "Нарматыўны слоўнік беларускай мовы" за кошт слоўнікаў 20-х гадоў і "Беларуска-расійскага (Вялікалітоўска-расійскага) слоўніка" Я. Станкевіча. І праўда, чаму б не скарыстаць гатовых лексікаграфічных прац, кожная з якіх, несумненна, мае свае вартасці. Скажам, слоўнік Я. Станкевіча грунтуецца не толькі на моўным матэрыяле сучаснай беларускай літаратуры, у тым ліку з твораў пісьменнікаў-эмігрантаў. Ягонай крыніцай сталіся таксама помнікі беларускага пісьменства, публікацыі і запісы народна-дыялектнай мовы, слоўнікі розных тыпаў, фальклорныя творы.

Калі намер акадэмічных мовазнаўцаў сур'ёзны, то найперш варта звярнуцца да тых матэрыялаў слоўніка Я. Станкевіча, якія адлюстроўваюць своеасаблівасць беларускай мовы, у прыватнасці, да падачы і характарыстыкі прыназоўнікаў. У гэтых адносінах слоўнік дае шмат каштоўнага. Чаму звяртаем увагу менавіта на прыназоўнікі? Гэтыя службовыя словы бяруць вялікі ўдзел у афармленні падпарадкавальных сувязяў слоў, у пабудове словазлучэнняў і сказаў, надаюць спецыфіку мове.

Апошнія дзесяцігоддзі назіралася тэндэнцыя да пашырэння канструкцый з прыназоўнікамі, агульных з рускай мовай, і звужэння ўжытку спрадвечных беларускіх словазлучэнняў і сказаў. Тут пэўную ролю адыгралі мовазнаўцы. У граматыках, слоўніках, даведніках статус літаратурных надаваўся ў першую чаргу тым сродкам, якія бліжэйшыя да "ўсесаюзнай" мовы. Адметнае, спецыфічнае часта атрымлівала пазнаку: "застарэлае", "дыялектнае" і г. д. Або зусім не паказвалася, як, напрыклад, канструкцыі, што ўжываюцца ў творах класіка беларускай літаратуры М. Гарэцкага: Тры [сыны] засталіся гаспадарыць, а самы маладзейшы, **на імя** Васіль, **з** панскага **загаду** прыстаў да немца-млынара ў навуку ("Сасна"). **З прыкладу** іншых людзей муж яе павёз у Маскву пуд мукі, а там за гэтую муку набыў пяць пудоў солі ("Пад'езд"). І яму і ёй **у дакументах** па 40 гадоў ("Кіслая крыніца"). Ён дасканала ведаў і мог бясконца пераказваць **з памяці** жыццеапісанні ўсіх святых ("Пабожны мешчанін"). Найчасцей сёння ў такіх спалучэннях ўжываецца пад уплывам рускай мовы прыназоўнік *па*.

Самае непасрэднае дачыненне да распрацоўкі праблемы прыназоўнікаў мелі Г. Базыленка ("Граматыка беларускай мовы", Мн., 1962) і яе паслядоўнік П. Шуба (пяцітомны "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", іншыя працы).

П. Шуба нязменна стаіць на пазіцыях прызнання нарматыўнасці ў беларускай мове некаторых канструкцый "прыназоўнік *па*+ давальны склон". У дапаможніку для універсітэтаў "Сучасная беларуская мова. Марфаналогія. Марфалогія" (Мн., 1987) ён піша: "Ёсць рад значэнняў, у першую чаргу абмежавальных, прычынных і паасобных адценняў часавых, дзе форма давальнага склону (у адзіночным ліку) замацавалася як трывалая норма, параўн.: *урок па пісьму, дождж прайшоў як па заказу, прыбыў па вашаму загаду, рабілі па старому звычаю, таварыш па універсітэту, фільм па Горкаму, капуста па вядру, снег па лапцю, гурбы па мядзведзю, сказаць па сакрэту, зганьбіць па злому намеру, не знаходзіў адрасу па цэламу месяцу* і інш.".

Кідаецца ў вочы штучнасць некаторых словазлучэнняў. Форма давальнага склону прыметнікаў і займеннікаў — вынік уплыву рускай мовы. Што да спалучэнняў *па вядру, па лапцю, па сакрэту*, дык тут назоўнік у форме не давальнага, як сцвярджае П. Шуба, а меснага склону. Нагадаем, што беларуская мова мае сінанімічныя канструкцыі: *урок пісьма, прыбыў паводле вашага загаду (на ваш загад, з вашага загаду), фільм паводле Горкага, сказаць пад сакрэтам* і інш. П. Шуба не хоча пагадзіцца нават з тымі ўжываннямі прыназоўніка па з месным склонам, якія "ўзаконіў" школьны "Арфаграфічны слоўнік" (Мн., 1990) М. Лобана і М. Судніка. Слоўнік падае за норму: *таварыш па атрадзе, загад па універсітэце.*

Яшчэ ў 60-я гады шмат хто з навукоўцаў, педагогаў і журналістаў разумеў, што канструкцыі "прыназоўнік *па + давальны склон*" неправамерныя ў беларускай мове. Так, настаўнік, аўтар школьных падручнікаў і дапаможнікаў Н. Шэўчык у водгуку на другі том акадэмічнай "Граматыкі беларускай мовы" ("ЛіМ". 19.12.1967) пераканальна давёў, што спалучэнні прыназоўніка *па* з формамі давальнага склону не ўласцівыя беларускай мове. А тое, што ў словазлучэннях тыпу *агент па збыту, праверыць па журналу* назоўнікі ўжытыя з канчаткам *-у*, далёка яшчэ не паказнік, што гэта давальны склон. У беларускай мове ёсць шмат выпадкаў, калі ў месным склоне назоўнік канчаецца на *-у(-ю): на шляху, на калу, па Рыгору, у рукапісу, у ценю* і інш. Значыць, і дапасаваны да такога назоўніка прыметнік набывае канчатак меснага склону. Некаторыя назоўнікі ўжываюцца з варыянтнымі канчаткамі доўгі час: у Пецярбурзе — у Пецярбургу, у кажусе — у кажуху, на ланцузе — на ланцугу. Але незалежна ад канчатка назоўніка прыметнік мае форму меснага склону: гуляць па летнім Пецярбурзе — гуляць па **летнім** Пецярбургу.

Сцвярджаць, што ў беларускай мове прыназоўнік *па* замацаваўся з давальным склонам — значыць упарта ігнараваць сучасную літаратурную практыку. Сёння, як і шмат гадоў назад, многія беларускія выданні правільна ўжываюць спалучэнні з прыназоўнікам *па*. **Па абмеркаваным пытанні** прынята адпаведная пастанова; меркаванняў **па дакладзе і праекце** новага Палажэння было шмат ("Настаўніцкая газета". 29.10.94). Дзейнасць па **фармаванні** гэтых уменняў павінна быць распачата значна раней; разгорнуты адказ на пытанне настаўніка ці сфармуляваны ім тэзіс **па мастацкім творы** ("Роднае слова". 1994. N 10). Яны [дзённікі] хутчэй напісаны **па прынцыпе**: не тое, што помніцца, а тое, што мроіцца... ("Полымя". 1994. N 10). Быў прыняты **па конкурсе** ў Цэнтральную музычную школу-дзесяцігодку **па класе** скрыпкі ("ЛіМ". 28.10.94).

Новая акадэмічная граматыка мусіць "пайсці насустрач" беларускай мове — зняць путы з канструкцый "па + месны склон", увогуле падаць сапраўдны беларускі сінтаксіс. Але ці збудзецца гэтае пажаданне? Цяжка сказаць. З паведамлення А. Падлужнага даведваемся, што да падрыхтоўкі граматыкі запрошаны "работнікі Белдзяржуніверсітэта"...

Сёння мовазнаўцы, асабліва акадэмічныя, у разгубленасці і страху перад "тым хаосам, які існуе не толькі ў правапісе, а і ў лексіцы, граматыцы, сінтаксісе" (А. Падлужны). Бясспрэчна, памылак у пісьмовай і вуснай літаратурнай мове шмат. Бо ў моўным працэсе бяруць удзел людзі, якія не аднолькава добра валодаюць мовай. Часта не выконваюць як належыць сваіх абавязкаў рэдактары, а найперш аўтары (навукоўцы, пісьменнікі, журналісты), перакладчыкі. І ўсё ж не трэба завастраць сітуацыю, падаграваць грамадства, каб павялічыць "цяжар" сваёй працы, як гэта любяць рабіць мовазнаўцы.

Роля лінгвістаў не павінна зводзіцца да ролі суддзяў моўнай практыкі. Найперш ім самім трэба вызначыцца ў моўнай палітыцы. І не падстаўляць мове падножкі там, дзе яна ідзе "правільным курсам", не спрыяць пашырэнню "хаосу".

На жаль, спрычыняюцца да моўнага бязладдзя навукоўцы і тады, калі свядома парушаюць літаратурныя нормы, а ў выніку — разбураюць сістэмы беларускай мовы. Звернемся зноў да кнігі П. Шубы. Няма сумніву, прафесар цудоўна ведае, што словазлучэнні і сказы: **падрыхтавацца к экзаменам, халаднавата станавілася к раніцы, прыйсці за разлікам, догляд за хворым, табун у трыста коней** не адпавядаюць літаратурным нормам нашай мовы. Але такімі прыкладамі ён ілюструе ўжыванне прыназоўнікаў. Памацняе "хаос" у мове падача прыкладаў з лексічнымі, марфалагічнымі памылкамі, з парушэннем спалу-

чальнасці слоў: *піліць бервяно на дошкі* (замест: *пілаваць...*), *хадзіць па маліну* (замест *хадзіць у(па) маліны*), *ашчаджаць па кавалку, рассмяяцца не да ладу, пах ад кветак, перацерці снег на муку.*

Многія беды мовы з таго, што ў некаторых беларускіх навукоўцаў няма ўпэўненасці ў добрай перспектыве нацыянальнай справы. Адсюль гэтая неакрэсленасць, супярэчлівасць выказванняў адносна функцыянавання і развіцця беларускай мовы, неадэкватнасць тэарэтычных высноў і практычных мерапрыемстваў яе надзённым патрэбам.

Дырэктар Інстытута мовазнаўства пагаджаецца (гл. "Наша слова" за 5.10.94), што ў цяперашніх слоўніках "сустракаюцца яўныя русізмы" і гэта "трэба выправіць", але аднача сова нібы апраўдвае такое становішча: русізмы "часцей за ўсё бяруцца з мастацкіх твораў, з нейкіх пісьмовых тэкстаў", "картатэка — аснова нашай работы", але "мы яе зараз не можам папаўняць належным чынам".

А вось як паказвае А. Падлужны працу "моваведаў" у справе дасканалення беларускай арфаграфіі: "Рабочай групе прыходзілася (!) **шмат працаваць**, каб кожны раз вынесці **нешта талковае** на пленарнае пасяджэнне камісіі", але: "на жаль, лепшага, чым ёсць, **нічога не змаглі прыдумаць**".

Не вызначаецца паслядоўнасцю, лагічнасцю і сам дакумент дзяржаўнай камісіі па ўдасканаленні правапісу "Высновы" ("Звязда". 13.09.94). Камісія прызнае, што "беларускі правапіс вельмі ўжо ж недасканалы". Сапраўды, у ім нямала недарэчнага. Напрыклад, трэба пісаць: дзень — дзянёк, дзеці — дзяціны, але нельга: дзесяць — дзясяты, сем — сямнаццаць.

Як быць у такой сітуацыі? Напэўна, трэба дасканаліць правілы арфаграфіі. Але камісія, спаслаўшыся на грамадскую думку, палічыла, што ў цяперашніх абставінах гэтае "мовазнаўчае мерапрыемства" немэтазгоднае. Праўда, нязздейсненыя "рэфарматары" пачуваюцца не зусім камфортна, робячы такую "выснову", і таму спрабуюць суцешыць і супакоіць сябе, а разам і грамадскасць: "...наогул мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць, паддавацца пачуццю боязі — хаця б не спазніцца".

І ўсё ж камісія, праз сваю кампетэнтнасць і разважлівасць, убачыла небяспеку: "Найвялікшая сёння наша бяда... у тым, што ўвогуле беларускай мове... пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку ...мовы нацыянальных зносін", актуальная задача цяпер — "пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах". Здавалася б, ад гэтай "глабальнай" высновы ўсяго толькі крок да лагічнага вываду: з "пагрозай увогуле" трэба змагацца канкрэтнымі дзеяннямі, у тым ліку ўдасканальваць правапіс. Але такі крок не зроблены.

Дзякуй камісіі, што пакідае хоць надзею: рэформу правапісу можна будзе праводзіць тады, "як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць". Усталюецца і ўмацуецца... Само?! Без умацавання пазіцый дзяржаўнай мовы?

Камісія "разгледзела стан літаратурнай мовы і яе ўжыванне ў апошнія гады ў пісьмовай і вуснай формах" і выявіла, што нормы і правілы літаратурнай мовы "пачалі масава парушацца". Гэтыя парушэнні, адзначаюць аўтары "Высноў", не толькі ад неахайнасці ("па неахайнасці") і праз непісьменнасць ("па непісьменнасці"), "пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне... іншых нормаў і правілаў".

Цікава, а да якога "разраду" аднесці моўныя хібы, якіх шмат у невялікім тэксце "Высноў"? Напрыклад: "**Не дасягнута было адзінства** толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме і ў прыватнасці, для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. **Гэта галоўная праблема сучаснага разнабою ў правапісе...**"

"Змяненні ж у правапісе цягнуць за сабой не толькі матэрыяльныя выдаткі і затраты значнага часу на іх (?) пашырэнне і ўкараненне, але і зніжэнне прэстыжу беларускай літаратурнай мовы, тэмпаў яе пашырэння ва ўжыванні. Ды і змяненні ў правапісе непазбежна вядуць да нестабільнасці **яе самой**".

"Аднак праца Камісіі была **сканцэнтравана**, як гэта і належала, **над пытаннямі** правапісу".

"...становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць **кволае**".

Словы *існуючы* і *зараз* у "Высновах" выцеснілі ўсе наяўныя беларускія адпаведнікі: "пазбавіцца ад *існуючага зараз* правапіснага разнабою і канфрантацыі", "*існуючую зараз* у літаратурнай мове сітуацыю", "абмеркаванне *існуючых* праблем літаратурнай мовы" і г. д. Так вырашаецца праблема ўзбагачэння слоўніка, актуальнасць якой падкрэсліла камісія?

Лічыць, што аўтары "неахайныя" і "вольна разумеюць" нормы, не дае іх высокі статус членаў дзяржаўнай камісіі, якой даручана справа велізарнай адказнасці. Хочацца выключыць і "непісьменнасць": у складзе камісіі акадэмікі, дактары філалогіі, пісьменнікі. Тады застаецца апошняе — "свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне"... Але наўрад ці пагодзяцца шаноўныя нарматворцы з такой кваліфікацыяй сваіх моўна-стылёвых недаглядаў. Дык, значыць, трэба і ім, навукоўцам, больш

*(Працяг на стар. 12)*

Часопісы ў снежні

# ТАК ВОСЬ І ЖЫВЁМ...

Яшчэ не так даўно пісьменнікам, якія спрабавалі паказаць што-небудзь негатыўнае з нашага жыцця, даводзілася нялёгка. Вельмі ж неахвотна бралі рэдакцыі падобныя творы. Выдавецтвы іх таксама "адштурхоўвалі", спасылаючыся на нетыповасць сітуацый — альбо на тое, што, маўляў, тэма ўзята важная і адказная, але не раскрыта па-майстэрску...

Цяпер жа — пішы пра што хочаш і друкуй, дзе хочаш — ніхто асаблівых перашкод на тваім шляху ставіць не збіраецца. Але — парадокс дый годзе! Тады былі творы, але іх не пускалі ў друк. Цяпер ці не перад кожным — "зялёнае святло", а значных па сваёй задуме твораў не так і шмат. Назіраецца, бадай, тое, што і раней, толькі так сказаць, з адваротным знакам. Тады знаходзіліся ахвотнікі ўсхваляць сацыялістычны лад жыцця, а сёння з'явілася нямала выкрывальнікаў усіх бед, што абрынуліся на нас у постсавецкім грамадстве, але і тыя пісалі нецікава, шаблонна, і сённяшнія творцы — гэтаксама.

Тым большую радасць адчуваеш, калі сутыкаешся з тым, што глыбока асэнсавана аўтарам, за чым стаіць не проста жаданне пісаць на актуальную тэму, а неабходнасць выказацца, перадаўшы вуснамі лірычнага героя ўласны боль, асабістую трывогу.

Гэтымі якасцямі валодае, напрыклад, А. Зэкаў, які ў снежаньскім нумары "Маладосці" выступае са змястоўнай паэтычнай нізкай. (Дарэчы, у "Полымі" ён надрукаваў невялікія апавяданні, у якіх відочна дакументальная аснова). У вершах ягоных — адчуванне суровых рэалій нашага жыцця і разуменне дыялектыкі яго, дзе ўсё ўзаемазвязана і дзе, разам з тым, кожны чалавек ўсё ж абавязкова вылучаецца з шэрагу іншых, не важна, лепшымі ці горшымі якасцямі. Зразумець яго — значыць і самому яшчэ раз наблізіцца да ісціны, адчуўшы, наколькі цяжкая дарога да яе і наколькі патрэбная яна. Ды гэта, думаецца, добра бачна з верша "Сусед":

**Ваўкаваты мой сусед**
**самагонку вечна глушыць**
**і глядзіць ваўком на свет,**
**толькі вось пагляд той скрушны,**
**бо адзін — на цэлы дом! —**
**без дзяцей жыве, без жонкі,**
**адзічэлы ходзіць днём,**
**сум заліўшы самагонкай.**
**Ў тым віна яго? бяда? —**
**разбярыся тут за часам.**

**А мне так яго шкада,**
**хоць ты йдзі з ім выпі разам.**

Вось і ўвесь верш. За некалькімі радкамі паўстае лёс чалавека, якога асудзіць лягчэй, чым зразумець. Раней мы — толькі асуджалі. Ды і як было не асуджаць, калі — ці не ўсе — дбалі адно пра шчасце ўсяго чалавецтва, а наконт канкрэтнага чалавека... Ды што з яго возьмеш — звычайны "вінцік". Цяпер, як быццам, усё інакш, хоць не так жа даўно гаварылі яшчэ пра чалавечы фактар, пра сацыялізм з чалавечым тварам. Ды і капіталізм, відаць, будуем з гэтым самым тварам. Аднак — яшчэ болей абасамляемся адзін ад аднаго, кожны наравіцца схавацца ва ўласнай шкарлупіне. Так спакайней, цяплей і — бяспечней...

Лірычнаму герою А. Зэкава баліць... І за іншых, калі яны непрыкаянцы, забытыя, незаўважаныя. Аднак ён не хавае і асабістага болю. Болю маральнага, духоўнага. Ён не саромеецца прызнацца, калі нешта робіць не так. Бо — не так як след усё атрымліваецца, бо — такі збег абставін. Ды абставіны абставінамі, а ўсё роўна ўсяго гняце трывога, няпэўнасць і віна. Як у вершы "А я ўсё ж спазніўся крышку...", прысвечаным паэтам роднаму дзеду. Не стала блізкага чалавека, пахавалі яго, пахавалі без унука:

**Як ля апошняга парога,**
**стаю ля свежага крыжа,**
**адзін, самотны, вінаваты,**
**пад адзінокаю сасной,**
**бы на крыжы на тым распяты**
**прад ім апошняю віной.**

Суровыя рэаліі не дазваляюць драмаць сумленню паэтаў, і таму ў вершы многіх аўтараў апошнім часам уладна ўрываецца палітыка. Здавалася б, М. Маляўка (часопіс "Маладосць") у сваёй творчасці меней за ўсё схільны да гучнай публіцыстычнасці, але чытаеш верш "Спектакль" і радуешся: настолькі тонка ўдалося яму спасцігнуць сапраўдны сэнс многага з таго, што адбылося і адбываецца: "Раскідалі хату старую, а новай — няма".

І ўсё ж М. Маляўка па-ранейшаму дасягае найбольшага поспеху ў вершах лірычнага плана, у якіх шмат асабістага — любасці да Бацькаўшчыны, а калі канкрэтней — да роднай і мілай сэрцу Стаўбцоўшчыны, да Мікалаеўшчыны, адкуль пачалася паэтава дарога. Аб гэтым сведчыць верш "Пад небам асеннім". Як кранальна сказана і як непаўторна: "Галінкай, карэньчыкам кожным пад небам асеннім дрыжыш". Быццам адчуваеш гэты холад асенняй вёскі. Адчуваеш і разумееш паэтава жаданне:

**Каб мог, асцярожна ўзяў бы**
**Ў далоні цябе, пагушкаў,**
**Сагрэў бы дыханнем, зяблую,**
**Як неадлётную птушку.**

Ды нішто слота і холад, калі кожная сустрэча з вёскай маленства нясе цяпло: "Не хутка ўсміхнуся вясне, але і такая, халодная, ты ўжо саграваеш мяне, о Мікалаеўшчына родная!"

Дзвюма вялікімі падборкамі прадстаўлены ў "Полымі" і "Беларусі" М. Кусянкоў. Абедзве — з кнігі "Чага", сустрэча чытача з якой наперадзе. Паэт шукае ратунку для бацькоўскай зямлі — спакутаванай, знявечанай, абпаленай чарнобыльскім прысакам. І знаходзіць яго:

**Вярнуся ж у лес я, і колькі б наўпрост**
**Брысці не прыйшлося,**
**Знайду я той чорны, як вугаль, нарост**
**На белай бярозе.**
**Знайду і збалелай зямлі прынясу**
**Ўсясільную чагу.**

Увогуле, як бачна з гэтых падборак, чарговая паэтычная кніга М. Кусянкова мецьме тую скіраванасць, якую мы ўсё часцей называем набліжэннем да Беларусі. У сцвярджэнні лірычнага героя: "Трэба, каб я тут араў і сеяў" — разуменне, што ніхто за саміх беларусаў на іх роднай зямлі нічога не зробіць. Самім нам будаваць дзяржаўнасць, ладзіць яе дом, каб годна стаяў і перад іншымі за яго не было сорамна.

З празаічных твораў вылучыў бы раздзелы з рамана В. Хомчанкі "Забітае — не забытае" ("Полымя"). Безумоўна, месцамі можна заўважыць і пэўную фрагментарнасць, але ж — гэта твор незавершаны і ўжо ніколі не будзе дапісаны. Таму трэба гаварыць аб асноўных накірунках аўтарскай задумы. Як бачна, Васіль Фёдаравіч хацеў паказаць, наколькі ў трыццатыя гады страх паралізаваў ці не ўсё грамадства, і як самыя сумленныя і смелыя знішчаліся, не могучы нічога зрабіць перад таталітарнай сістэмай. У цэнтры два вобразы колішніх аднапалчан. Колісь Піскуноў і Клімаў служылі ў адным кавалерыйскім эскадроне. Першы на той час належаў да тых, хто дапамагаў знаходзіць "ворагаў народа", таму за кратамі апынуўся і Клімаў. І вось сустрэча праз дзесяцігоддзі. Па збегу абставін дачы Піскунова і Клімава аказаліся поруч. Можна толькі здагадвацца, як складуцца ўзаемаадносіны гэтых людзей. Хаця — здагадвацца якраз не так і проста. Верагодней за ўсё, што Клімаў так і не зможа дараваць колішняга Піскунову. Хаця — як сказаць. Час жа многія раны залечвае, ды і невядома яшчэ, як жыў далей сам Клімаў. Апублікаваныя раздзелы рамана заканчваюцца тым момантам, калі Клімаў адважыўся на ўцёкі з лагера, вырашыў падацца на фронт: "Усялякая ўдача і няўдача можа залежаць ад зусім малой дробязі ці збегу абставін, якіх зусім немагчыма было прадбачыць. Не мог прадбачыць і Клімаў, што ў той дзень, у нядзелю, з дзвюх суседніх калон уцякуць яшчэ дзевяць зэкаў. І, як потым выявілася, ва ўсіх уцекачоў была такая ж мэта, як і ў Клімава — трапіць на фронт..."

Кнігу "непрыдуманых апавяданняў пра падзеі 30-х гадоў, сведкам і ахвярай якіх быў", напісаў і П. Пруднікаў. У "Маладосці" — два з гэтых твораў: "Самазабойца" і "Жывая мішэнь". Тое, пра што расказвае аўтар, жудаснае і страшнае. Яно і сведчанне трагічнага часу, але яно і напамінак аб тым, як важна жыць у грамадстве ў згодзе, каб перажытае намі ніколі не паўтарылася.

А вось аповесць Ю. Станкевіча "Свінапузь" ("Маладосць") выклікае іншы настрой. Твор гэты — сатырычна-гумарыстычны. Ю. Станкевіч вельмі праўдзіва і пераканаўча выкрывае графаманства, паказвае тых, хто рвецца ў літаратуру, не маючы ні кропелькі таленту, а толькі амбіцыі.

Іван Чыгрынаў працягвае асваенне драматургічнага жанру. І з кожным разам пашырае кола сваіх мастакоўскіх пошукаў: у "Маладосці" друкуе драму "Савіцкі", тым самым заглыбляецца ў гады рэвалюцыйнай барацьбы. А тут, як вядома, шырокае поле дзейнасці для пісьменніка, які не прывык верыць стэрэатыпам гісторыі. Чыгрынаў жа акурат да такіх і адносіцца. Таму, імкнучыся да праўды, аб'ектыўнасці, ён не баіцца па-свойму глянуць на супярэчлівыя падзеі і — дасягае поспеху. Савіцкі паўстае і ахвярай свайго часу і барацьбітом, які не толькі ўзвышаецца над гэтым часам, а ў нечым як бы і "стварае" яго, фарміруе тую атмасферу, у якой пачынаюць апраўдвацца любыя сродкі дзеля дасягнення мэты. Ці не ў гэтым трагізм не толькі саміх барацьбітоў, але і іх наступнікаў, калі, дбаючы аб справядлівасці, да гэтай справядлівасці многія ішлі зусім не праведнымі мэтамі. Забывалі, што сродкі, узятыя на ўзбраенне дзеля дасягнення нечага, павінны быць вартымі гэтага выніку.

Дарэчы, з І. Чыгрынавым мы сустракаемся і ў часопісе "Беларусь" (артыкул М. Тычыны "Пісьменнік — гэта лёс" у сувязі з 60-годдзем Івана Гаўрылавіча) і ў "Нёмане", дзе змешчана гутарка Д. Бугаёва і І. Чыгрынава "Літаратура — маё жыццё". Абодва матэрыялы прыцягваюць увагу, дазваляюць зразумець, наколькі адчувальная прысутнасць І. Чыгрынава ў сучаснай беларускай літаратуры (і колішняй савецкай), як глыбока, у прыватнасці, асэнсоўвае ён тэму мінулай вайны, ідучы, як правіла, па цаліку.

І яшчэ пра "Беларусь". Як вядома, нядаўна споўнілася 70 гадоў беларускаму кіно. Не сказаць, каб юбілей нашым друкам шырока адзначаўся, а калі і з'явіліся ў некаторых газетах і часопісах матэрыялы, дык мелі яны традыцыйны юбілейны характар. Іншым шляхам пайшоў часопіс "Беларусь". Гаворка на старонках найперш аб тым трывожным становішчы, у якім апынуўся нацыянальны кінематограф. Сваімі меркаваннямі дзеляцца рэжысёры, крытыкі, драматургі, генеральны дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм" Ю. Цвяткоў, галоўны рэдактар студыі дакументальных фільмаў "Летапіс" С. Палякоў. Трывожныя развагі, нічога не скажаш. Але, нягледзячы ні на што, беларускае кіно жыве і фільмы здымаюцца, вось толькі для каго?.. Калі б гэта гаварыў не генеральны дырэктар кінастудыі "Беларусьфільм" па вытворчасці і эканоміцы А. Шкадарэвіч, дык не паверыў бы. Аказваецца, беларускія стужкі заказваюць Ханты-Мансійск і Паўднёва-Сахалінск. "І разам з тым — ніводную копію айчыннага фільма не набыў пракат Беларусі. Кожны наш фільм мае два варыянты — на рускай і беларускай мовах. Мы прапаноўвалі беларускія варыянты прадстаўнікам нашых пракатных арганізацый. Тыя адмовіліся, спасылаючыся на адсутнасць сродкаў. Але на амерыканскія стужкі трэцяга гатунку грошы ў іх адразу знайшліся".

Так вось і жывём...

**М. АНДРЭЕНКА**

# ПА ПРАБЛЕМАХ ТЭРМІНАЛОГІІ

Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны пры ўдзеле Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны праводзяць 18—19 траўня 1995 г. у Мінску II Нацыянальную канферэнцыю "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі".

На канферэнцыі будуць разглядацца тэарэтычныя і дастасоўныя праблемы распрацоўкі, сістэматызацыі і практычнага выкарыстання беларускай навуковай тэрміналогіі ў розных галінах навукі, тэхнікі, культуры і народнай гаспадаркі. Працу канферэнцыі плануецца арганізаваць у форме пленарных пасяджэнняў і работы тэматычных секцый. Матэрыялы канферэнцыі будуць апублікаваны ў выніковым зборніку.

Аргкамітэт запрашае навукоўцаў і прыхільнікаў роднай мовы прыняць удзел у канферэнцыі. Заяўку на ўдзел трэба падаваць да 1 сакавіка 1995 г. на адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, ТБМ імя Ф. Скарыны, аргкамітэт тэрміналагічнай канферэнцыі. Просім паведаміць назву Вашага даклада (і дадаць кароткую анатацыю яго зместу аб'ёмам да 1/2 старонкі), а таксама звесткі пра Ваша месца працы і пасаду, навуковую ступень і навуковае званне, службовы і хатні адрас і тэлефоны.

Кантактныя тэлефоны аргкамітэта: 332511, 395061 (старшыня аргкамітэта Язэп Стапановіч), 394447 (сакратар аргкамітэта Святлана Бельская).

# "Я Ў СВЕТ НЯСУ ЖЫЦЦЁ..."

## ГУТАРКА З ЛАЎРЭАТАМ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭМІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ІМЯ ЯНКІ КУПАЛЫ РАІСАЙ БАРАВІКОВАЙ

**— А што падштурхнула вас звярнуцца да гістарычнай тэматыкі? Як узнікла задумка твора?**

— У нашай гісторыі, на жаль, зберaглося не так і шмат імёнаў. Тым больш — жаночых! А тут прачытала ў летапісе Рачынскага пра Барбару Радзівіл, пра гісторыю яе кароткага жыцця і яе трагічнага кахання. Сюжэт захапіў мяне. Сама таямніца кахання, загадкавая да гэтага часу смерць Барбары Радзівіл — была яна атручана па загадзе каралевы Боны Сфорца ці памерла з нейкае іншае прычыны, легенда пра чорную даму Нясвіжа — тут хоцькі-няхоцькі возьмешся за пяро... Вядома, здабыты гістарычны матэрыял клаўся ў паэму не жыўцом, штосьці дадумвалася, даасэнсоўвалася, уключалася ў работу фантазія. Нехта іншы паглядзеў бы на гэты сюжэт інaчай і напісаў пра ўсё гэта інакш, а ў мяне напісалася менавіта гэтак, і для мяне "Барбара Радзівіл" — дарагі момант з майго жыцця, а не толькі твор. Пасля ўжо паводле паэмы пісалася п'еса, але гэта ўжо зусім новы твор. П'еса стваралася па законах тэатральных, па законах драматургіі. У выніку я зноў нямала часу жыла ў гэтым вобразе, захаплялася ім. Так вось і сталася, што паэма ў кнізе асабіста для мяне ўспрымаецца ці не галоўным творам, хоць, можа, чытачы будуць іншай думкі наконт гэтага. А што да вершаў, дык паасобныя, калі б давялося кніжку перавыдаваць, сёння ўжо не ўключыла б у яе. Гэта, мне здаецца, натуральна, бо з цягам часу на свае ўласныя вершы пачынаеш усё ж глядзець трошкі адчужана, ужо як бы збоку. А што да лепшай кніжкі, якая яшчэ наперадзе... Гэтага пэўна ніхто не можа сказаць. Можа быць і лепшай, а можа — і слабейшай. Калі, скажам, азірнуцца назад, дык у мяне і цяпер хінецца душа да кніжкі "Адгукнуся голасам жалейкі". Проста той момант жыцця, калі пісалася яна, быў для мяне і горкі, і салодкі, неразгаданы да канца, згадкі аб ім жывуць, зберагаюцца і сёння, і мо таму многія вершы з тае кніжкі больш задавальняюць мяне, чым вершы, сабраныя ў "Люстэрку для самотнай". Але, зноў жа, гэта чыста асабістае адчуванне...

**— Раіса Андрэеўна, а што вы можаце сказаць пра сваіх літаратурных настаўнікаў?**

— Гэтае пытанне таксама няпростае. У маладосці, у гады студэнцтва мяне захапляла паэзія Ахматавай, Цвятаевай, па сённяшні дзень я люблю перачытваць Пятрарку, санеты Шэкспіра ў перакладах Дубоўкі. У любога паэта, якога чытаеш, нечаму вучышся. Люблю перачытваць і нашу класіку: Багдановіча, Купалу. Тут хочацца гаварыць не пра настаўнікаў, а найперш пра паэтаў, да якіх зведваеш нейкае асаблівае пачуццё — пачуццё любві і ўдзячнасці, пра паэтаў, без якіх твой уласны паэтычны шлях ці адбыўся б. Сёння, калі ўжо нямала пражыта і калі часцей, азіраешся назад, мне заўсёды вельмі дарагі для душы і сэрца воблік паэта і чалавека Аляксея Пысіна. Ён заўважыў мае першыя вучнёўскія спробы на старонках раённай газеты, падтрымаў маё жаданне пісаць, параіў паступаць у літаратурны інстытут. Вельмі дарагі мне і Пімен Емяльянавіч Панчанка. Дагэтуль у мяне захавалася ягоная паштоўка. Я прасіла ў яго рэкамендацыю для паступлення ў Саюз пісьменнікаў, паслала яму першую сваю кніжачку. І вось ён прыслаў мне паштоўку з пералікам тых вершаў, якія яму спадабаліся, напісаў, што дасць рэкамендацыю, і неяк вельмі далікатна сказаў, што пра недахопы — іншым разам. З адной кніжкай тады не надта ахвотна прымалі ў саюз. І тут мяне вельмі падтрымаў Ніл Сымонавіч Гілевіч. Ён папрасіў рукапіс маёй другой кніжкі, які быў здадзены ў выдавецтва, прачытаў яго, сказаў пра мяне і маю творчасць добрыя словы, і я была прынята ў СП, а кожнаму маладому паэту хочацца хутчэй уступіць у творчы саюз, каб набыць статус прафесійнасці. Я заўсёды нашу ў душы пачуццё ўдзячнасці людзям з нашага літаратурнага асяроддзя, якія і падтрымаюць, і дапамогуць, і параяць. Кожны з названых мною людзей можа быць маім настаўнікам. Стасункі з імі дапамагалі мне набываць і жыццёвы, і творчы вопыт.

**— Раіса Андрэеўна, хацелася б, каб вы падзяліліся з чытачамі некаторымі сакрэтамі "творчай лабараторыі". Як узнікаюць, нараджаюцца ў вас вершы? З чаго ўсё пачынаецца?**

— Тут для мяне важныя два моманты. Трэба, каб зусім нечакана прыйшоў, уварваўся першы радок, а, можа, зусім і не першы, можа, ён потым стане апошнім, але — каб ён загучаў ува мне, гэты радок будучага верша. Ён можа прыйсці дзе заўгодна — у дарозе, у рэдакцыйным пакоі, на кухні...

**— І вы яго тут жа занатоўваеце на паперы?**

— Ён запамінаецца, але я ўсё ж сапраўды стараюся яго запісаць. На маім пісьмовым стале такіх запісаў — процьма, і я прашу маіх сямейнікаў і блізка не падыходзіць да яго, бо толькі я адна магу разабрацца, дзе і што ляжыць там. Дык вось, мне патрэбен гэты першы радок і — адпаведны настрой, альбо натхненне, згаданы мною другі момант. Прыходзіць у душу нейкае ўзрушэнне, вельмі глыбокі смутак, жаль, і тады гэты душэўны настрой быццам штосьці падштурхоўвае ўва мне, і за тым першым радком пачынаюць з'яўляцца, нараджацца наступныя радкі верша.

У нас шмат цудоўных паэтаў. Прынамсі, дзесяткі са два сапраўдных, самага высокага ўзроўню паэтычных зорак. У кожнага з іх вершы нараджаюцца па-рознаму, у кожнага свая псіхалогія творчасці, і гэта заўсёды цікава. Ёсць паэты, якія могуць плённа працаваць у Доме творчасці, скажам. А вось я там пакутую, а не пішу. Мне здаецца, што мне дапамагаюць нават родныя сцены. Некалькі разоў даводзілася мяняць кватэру, і гэта былі пакутлівыя для мяне часіны, бо — магу працаваць толькі там, дзе прывыкла, дзе я адчуваю нейкі свой творчы фон, тое, што стварае творчы настрой. Ёсць у мяне, прызнаюся, і музыка пэўная. Калі, напрыклад, доўгі час не пішацца, а патрэба пісаць адчуваецца, узнікае, я ўключаю "сваю" музыку. Я ведаю зусім пэўна, што калі прагучыць дарагая для мяне мелодыя, неабходны "рабочы" настрой прыйдзе. Гэты самы настрой можа ўзнікнуць і ў часе чытання чужых вершаў...

Наогул, мне часам думаецца, што за кожным вершам стаіць вялікая энергія. У сувязі з гэтым успамінаецца Канстанцыя Буйла. Неяк у "Работніцы і сялянцы" яшчэ ў 80-я гады мяне папрасілі з'ездзіць да яе ў Маскву і зрабіць матэрыял. Я паехала. Мы чыталі вершы, перачытвалі Купалу, знаходзілі любімыя радкі ў яго — я свае, яна свае, і яна раптам кажа: вось калі я чытаю верш і мяне праціна ють дрыжыкі, значыць — гэта сапраўдная паэзія. А пасля я прачытала ў Рэрыха пра нявывучаную касмічную энергію, што прыводзіць у нейкі рух нервовыя клеткі чалавека і выклікае дрыжыкі, быццам мурашы пабеглі па скуры. Я прачытала гэта і ўспомніла Канстанцыю Антонаўну. Відаць, сапраўды паэт аддае, напаўняе свой верш нейкай сваёй, унутранай, душэўнай, касмічнай энергіяй, якая пасля, у часе чытання, перадаецца чытачу і выклікае "мурашоў на скуры", так званае суперажыванне. Інакш чым яшчэ вытлумачыць яго? Я ведаю, многія людзі разважаюць паблажліва: маўляў, якія там мукі-пакуты, сеў і напісаў вершык! А гэта ж далёка не так! Гэта і настрой, і падрыхтаванасць душы, гэта і нешта няўлоўнае, невыказнае, што змушае цябе працаваць апантана і дзень, і другі, і трэці, а потым быццам усё зачыніцца і ты не ведаеш, калі зноў гэта прыйдзе да цябе...

**— Калі ўжо зайшла гаворка пра "творчыя сакрэты", дык скажыце і пра вашы ўзаемаадносіны з рэдактарамі вашых кніг. Ці часта рэдактарская рука ўмешвалася ў вашы вершы?**

— Я не надта люблю, калі мяне правяць. Ведаю, што многія маладыя паэты не пярэчаць супраць гэтага. Сама колькі разоў чула ад іх, калі працавала літаратурным кансультантам: калі вы лічыце, што трэба паправіць, — праўце. Я не прымаю гэтага. Бывала, друкуючы вершы ў часопісе, згаджалася на нейкія рэдактарскія праўкі. Але пры выданні кнігі вяртала тым вершам ранейшы, першапачатковы выгляд, аднаўляла свае радкі. Лічу, што гэта, хоць няхай і слабое, кволае, але — сваё. Творчасць — гэта вельмі індывідуальная рэч, і кожнае чужое ўмяшанне для мяне вельмі балючае, я штораз страшэнна перажываю.



Вядома, і рэдактары бываюць розныя. Скажам, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" Леанід Дранько-Майсюк — рэдактар вельмі далікатны, з тонкім, высокім густам. Ён рэдагаваў дзве мае кніжкі, у тым ліку "Люстэрка для самотнай", і ў радкі ніколі не ўмешваўся.

**— Раіса Андрэеўна, банальнае пытанне, аднак жа — як вы ўмудраецеся сумяшчаць і творчасць, і працу ў часопісе, і хатнія, сямейныя клопаты?**

— Гэта вельмі цяжка, калі па шчырасці. Для паэта наогул, а для паэтэсы — тым больш. Зрэшты, гэта якраз і падкрэслівае, што няма паэтаў і паэтэс, а ёсць проста паэты. Я доўгі час з усіх сіл трымалася быць на так званым вольным хлебе, гэта значыць, старалася не "служыць" дзе-небудзь у рэдакцыі ці выдавецтве. Але ж як інaчай выжыць? Сёння ніякі муж у адзіночку на зарплату не можа ўтрымліваць сям'ю. Вымушана была пайсці на працу ў рэдакцыю "Работніцы і сялянкі" і я, працую тут з прыемнасцю, прыжылася, здаецца, у нашым слаўным невялічкім калектыве. Люблю я выконваць і грамадскія абавязкі, бываць у школах, выступаць перад дзецьмі, хоць і гэта таксама забірае не лішні для творчага чалавека час. А яшчэ больш часу губіць наш неўладкаваны быт. Я люблю быць дома, люблю сваіх хатніх. І хоць часта ўшчуваю, павучаю іх, але ж люблю і гатаваць ім, і прыбраць, і памыць. Я ўдзячна ім, што яны не ўмешваюцца ў мой, скажу гучна, творчы працэс. Для іх я мама і жонка, і толькі.

**— Што вы думаеце пра нашу сучасную паэзію? Ці спрыяе ёй наш сённяшні час, нашы сённяшнія варункі?**

— Я ўжо казала, што ў нас нямала проста выдатных паэтаў — і старэйшага, і сярэдняга, і малодшага пакаленняў. А вось кантактаў ранейшых паміж намі няма, на жаль. Наогул, творчае жыццё неяк змізарнела, аціхла, мы вельмі рэдка куды-небудзь выязджаем, сустракаемся. Раней жа было інакш, і паэзію нашу ведалі, цанілі не толькі тут, дома, але і далёка за межамі Беларусі. Прынамсі, так здавалася. А цяпер? Час проста вар'яцкі. Людзі заняты найперш побытам, матэрыяльнымі патрэбамі, а на духоўны спажытак асабліва не зважаюць. Толькі ж — ці можна гэтак доўга жыць? Высокі дух павінен прысутнічаць, ён стрымлівае тыя ці іншыя крайнасці. Паэт павінен быць трошкі вольны, адлучаны ад будзённых клопатаў, ну не тое што лунаць у аблоках, але ўсё ж павінен быць хоць трошкі акрылены. А час — прызямляе, абяскрыльвае. І яшчэ адно. Творчага чалавека трэба ўсё ж падхвальваць, творчаму руху, росту спрыяюць добрыя словы. На жаль, сёння не толькі творцы, паэты — уся наша літаратура прыніжана, занядбана, і гэта крыўдна, недаравальна, недапушчальна...

**— Раіса Андрэеўна, усё гэта сапраўды крыўдна і балюча. Дык што — і перспектывы, будучыні няма? Ці мо ўсё ж прыйдзе іншы час — і для нашай літаратуры, і для ўсіх нас, для дзяржавы нашай?**

— У мяне погляд на ўсё гэта даволі аптымістычны. Я не сказала, бадай, пра галоўнае ў самым пачатку нашай гаворкі. Я рада, што высокая ўзнагарода носіць імя незалежнай Рэспублікі Беларусь. А гэта ўжо — назаўсёды! Вяртання назад — не будзе! Гісторыя дала нам шанц — і мы адродзімся. Зарука гэтаму — наш народ, душа якога — жыве. Вось, скажам, "Звязда" аб'явіла конкурс прыпевак. Колькі яна надрукавала гэтых прыпевак з усіх куткоў Беларусі! І заўважце — ніхто не прыслаў аніводнай на рускай мове, толькі на мове роднай. І гэта прысылалі простыя, звычайныя людзі, якія любяць дасціпнае, трапнае слова. Скажу і пра такі момант. Раней, чуючы недзе беларускае слова, можна было не сумнявацца, што гаворыць яго пісьменнік ці журналіст, ну яшчэ настаўнік. А сёння папытайце пра што-небудзь на вуліцы, у транспарце — вам часта адкажуць па-беларуску. І асабліва часта — моладзь. Як той казаў, працэс пайшоў. А вазьміце фірму "Дайнова", банк "Дукат" — там усе супрацоўнікі ведаюць беларускую мову, гавораць і працуюць на ёй... Усё гэта падтрымлівае маё аптымістычнае пачуццё.

Хочацца тут і маленства сваё прыгадаць. У нашай хаце адзначаліся ўсе народныя святы. Дзяды, скажам, памятаю. Мама на Дзяды заўсёды шмат гатавала, смажыла. І пакідала нанач стол з ежаю. Казала: "Ноччу дзяды прыйдуць, хай павячэраюць з намі". Я старалася на заснуць, прыслухоўвалася, ці не бразгане клямка, як дзяды будуць ісці ў хату... А як зіму праганялі? Бабуля брала памяло, махала ім і казала: "Ідзі, зіма, з хаты, ідзі прэч!" Гэта, пэўна, і давала, закладвала ўва мне нейкі творчы пачатак. І ўсё гэта жыве і сёння. Прынамсі, у нас, на Брэстчыне, дзе я нарадзілася і расла...

**— Хачу вярнуцца да "Барбары Радзівіл". П'еса паводле паэмы пастаўлена на "Вольнай сцэне" рэжысёрам Валерыем Мазынскім. Скажыце, вас не захапіў тэатр? Не прадоўжацца вашы стасункі з ім?**

— Для мяне тэатр — храм. А чаму паспрабавала зазірнуць у яго? Ува мне заўсёды жыве жаданне заглянуць у суседні жанр — у прозу, скажам, у драматургію. Але разам з тым ува мне заўсёды прысутнічае і пачуццё, што тым самым я здраджу галоўнаму — паэзіі. Што, напісаўшы апавяданне, я марна страчу час, дараваны мне на верш. Я некалькі разоў падступалася да аповесці, але гэтая самая боязь змушала мяне спыніцца. Ёсць у мяне нямала фантастычных, самых неверагодных сюжэтаў, але — няма смеласці, рашучасці ахвяраваць дзеля іх ажыццяўлення паэзіяй. Тое ж самае і з драматургіяй. Вось нарэшце рашылася, выйшла, так сказаць, на сцэну. А другі раз — наважуся? Не ведаю. Новая п'еса амаль напісана, гэты раз не вершам, засталося толькі адшліфаваць, зрабіць апраўу, але — ці скончу, ці давяду яе да ладу? Я ўсё чакаю вершаў, я ўсё збіраю, раскідваю па стале свае радкі, строфы...

**— А ўсё-такі, што сёння на тым стале, акрамя гэтага?**

— Пішу апавяданне, зноў з той жа самай аглядкай на здраду. Ляжаць на стале незавершаныя нататкі пра Амерыку, пра сваю нядаўнюю паездку туды. А яшчэ — працую над кніжкай для дзяцей. Як бачыце, я ў творчай форме, хай Бог дае адно здароўя і часу...

**— Дзякуй вам, Раіса Андрэеўна, за гутарку. Яшчэ раз ад імя "ЛіМа" і лімаўцаў віншую вас са слаўнай падзеяй у вашым пісьменніцкім лёсе і жадаю вам добрага творчага плёну.**

**Гутарку вяла Марыя ГІЛЕВІЧ**

***Тэатразнаўца Мікалай Манохін быў шчыра ўражаны акцёрскім мастацтвам Уладзіміра Самойлава ў ролі Рычарда III і вырашыў напісаць пра яго. Але... "не так, як усе людзі..." Ездзіў у Горкі, глядзеў акцёра ў спектаклях. Перагледзеў усе ягоныя работы ў тэатры імя У. Маякоўскага (Масква) і ў кіно. Даведаўшыся, што Уладзімір Якаўлевіч — любімы акцёр кінарэжысёра Вячаслава Нікіфарава, напрасіўся да яго папрацаваць на пляцоўцы ў спадзяванні наблізіцца да свайго куміра на здымках фільмаў "Бацькі і дзеці", "Дуброўскі", "Вялікая прыгода", "Хлеб пахне порахам"...***

***У гэтыя студзеньскія дні народны артыст Азербайджана і народны артыст СССР, лаўрэат дзяржаўных прэмій Расіі Уладзімір Самойлаў адзначае свой сямідзесяцігадовы юбілей. З ім гутарыць Мікалай Манохін.***

# "НЕ МНЕ МЕРКАВАЦЬ ПРА ВЯРШЫНІ..."

**— Уладзімір Якаўлевіч, які ваш самы любімы фільм?**

— "Чапаеў". Зроблены проста, дабротна. Высокапрафесійна. Галоўнае — па-філасофску глыбока. Некалькі дзесяткаў разоў глядзеў і заўсёды лавіў сябе на думцы: чым жа ён падкупляе, зачароўвае? Шчырасцю. Цудоўнай рэжысурай. Акцёрскім ансамблем.

**— Ваш самы дрэнны фільм?**

— Ой, шмат... Усіх не пералічыць... Але я табе скажу, што мне сёе-тое не падабаецца нават з таго, што атрымала шырокае, так бы мовіць, прызнанне... "Балада пра салдата", напрыклад. Адкуль, хто, дзеля чаго, навошта ўзняў такі гвалт вакол гэтай досыць пасрэднай стужкі? Якія толькі эпітэты не вешалі на гэтае кіно! І — узрушэнне, і — адкрыццё, і — новае слова ў сусветным кінамастацтве, і чаго толькі не пісалі крытыкі... Паглядзеў яго на гастролях у Валгаградзе. Выйшаў з кінатэатра ніколькі не ўражаны. Паглядзеў яшчэ раз. Спакойны. На здымках фільма "26 бакінскіх камісараў" пад Баку, у пяску — гляджу трэці раз і пытаюся ў сябе: чаму не разумею нованароджаны шэдэўр? Хто там, што новае адкрыў? Бачу трывалыя, шчыра ўкрадзеныя штампы...

**— Ці любіце вы дублі?**

— Гэта работа. Звычайная, чарнавая. Самы адказны, кульмінацыйны момант у нашай прафесіі, ды, пэўна, і ў кінематографе — таксама. Без дубляў нельга. Бо дублі здымаюць не толькі з-за памылкі, скажам, акцёра або акцёрскага ансамблю: нехта выбіваецца, не цягне... ды ці мала чым можа быць незадаволены рэжысёр? На здымках штохвілінна здараюцца нейкія нечаканасці чыста тэхнічнага характару, якія вымагаюць абавязковага паўтору. Іншае пытанне, што ў кіно не заўсёды трапляюцца бясквільныя ролі. Надараюцца і досыць крыўдныя кур'ёзы. У "Вяселлі ў Малінаўцы", дзе я біў Папандопулу, да слова сказаць — па-майстэрску сыгранага Мішам Вадзяным, здымалі пяць дубляў. Рэжысёр Тутышкін прасіў Мішу цярпець, мне шаптаў: біць па-сапраўднаму. Я біў. Вадзяному было не да смеху. Крыўдна? Безумоўна. Але яшчэ больш крыўдна стала, калі ён даведаўся, што ў фільм увайшоў першы дубль. У "Сібірыядзе" мне таксама перапала. Міхалкоў-Канчалоўскі здымаў шмат дубляў. А я там і дровы сек, і за сынам з вялізным натуральным дрынам ганяўся. Выматаўся. У адным эпізодзе трэба было ўпасці тварам на мурашнік. Прыемнага мала. На чарговым дублі ляжу і чакаю каманду "стоп". Здымалі буйна. Каманды няма, відаць, рэжысёр вырашыў на хаду памяняць ракурс, пашырыць кампазіцыю кадра. Адчуваю нясцерпны сверб — да болю. Трываю. Пасля каманды "стоп" асістэнты рэжысёра агледзелі шыю і... выцягнулі вялізнага кляшча, які паспеў глыбока ўсмактацца ў цела... Тут да месца сказаць, што знаёмства з Андронам Міхалковым-Канчалоўскім, якое адбылося ў ягоным кабінеце на "Масфільме", ледзь не спынілася на першым здымачным дні пад Калінінам. Ды і ўвогуле, ён мне не глянуўся... Фрагмент аднаго фільма здымалі на дачы Сяргея Міхалкова. Пазнаёміўся з ягонай жонкай. Вось дзе сапраўды — сама жаноцкасць і чароўнасць. Спытаў: як ёй удалося так захавацца? Адказала, не думаючы: "Я ніколі не ведала трох рэчаў: дзе ў мяне пячонка, дзе сэрца і дзе муж".

**— Палохаюць альбо раздражняюць вас каманды "Пачалі!", "Стоп!"?**

— О! Яшчэ як! Упершыню пачутую каманду "Матор!" і "Пачалі!" я буду помніць да канца дзён сваіх, але — гэта асобная гаворка. А што датычыць тэхналогіі здымачных пляцовак, стварэння, так сказаць, нармальнага творча-дзелавога мікраклімату... Трэба мяняць атмасферу. Павышаць культуру кіназдымачных груп. Чуў, што калі амерыканскі акцёр Стайгер здымаўся ў Бандарчука ў ролі Напалеона, яго запрасілі на здымачную пляцоўку, ён увайшоў у кадр і раптам нехта са "светлякоў" папрасіў адну хвілінку — паправіць святло. Акцёр даведаўся аб прычыне затрымкі, сеў у машыну і паехаў у гасцініцу, сказаўшы перакладчыку, каб перадалі рэжысёру: "Калі будзе гатовы, няхай паведаміць. Акцёр даўно гатовы". Гэта не капрыз суперзоркі — гэта павага да сваёй прафесіі. Бандарчуку давялося асабіста пяехаць, прасіць прабачэння ў акцёра. У нас ж на кіназдымачных пляцоўках такі вэрхал, што часам дзіву даешся, як наогул здымаюць фільм. Крык, шум, гвалт. "Я — гатовы!". Я — не гатовы!" "Каго чакаем?" "Каго не чакаем?" Адны робяць выгляд, што плацяць за вельмі нялёгкую працу, другія... Робяць выгляд, што працуюць? Адным словам: шуму і крыку — аж занадта. Часам каманды "Матор!", "Пачалі!", "Стоп!" падаюцца з такой эмацыянальнасцю, што ствараецца ўражанне, быццам для рэжысёра ў гэтым — увесь сэнс таго, што адбываецца. Няхай зразумеюць мяне правільна. Я не хачу прыніжаць ці зменшыць працу ніводнага чалавека здымачнай пляцоўкі. Але галоўная персона кадра — акцёр. І трэба старацца ствараць такую абстаноўку, каб акцёра нішто не раздражняла: ні касцюм, ні рэквізіт, ні святло. А асабліва — празмерныя крыкі.

**— Працуючы на сцэне, на здымачнай пляцоўцы, ці адчуваеце раздваенне, г. зн.: дзейнічаеце і назіраеце, гаворыце і слухаеце адначасова? Дакладней: ці сочыце вы за гармоніяй дзеяння?**

— А як жа? Абавязкова!

**— Працуючы на сцэне з партнёрам, вы ідзяце па дзеянні ад партнёра (ягонага настрою, рытму, музычнасці тэкставага гучання і г. д.) або чакаеце рэпліку і незалежна ад таго, хто і як іграе — выбудоўваеце малюнак вобраза свайго героя?**

— Усё творчае жыццё ішоў ад партнёра! Гэтаму мяне вучылі і ў вучылішчы, і ў Кемераве, і ў Горкім...

**— Многія крытыкі і рэжысёры называюць вас акцёрам выключнай інтэлектуальнай сілы, акцёрам-мысляром на сцэне. Як вам гэта ўдаецца?**

— Гэта гучна сказана. Аднойчы на гастролях у Ленінградзе на спектакль "Юпітэр смяецца" прыйшла адна старая актрыса. Добрая актрыса. Пасля спектакля яна зрабіла мне своеасаблівы камплімент: "Добра падманваеш... Ты часам бываеш вельмі разумным". І ўспомніла да месца Ленскага, які некалі сказаў, што артыст — калі занадта доўга думае або занадта разумны — ужо не артыст.

Правільна! Артыст павінен умець — быць! Тэатр — гэта гульня! Хто не гуляе — той прайграе!

...Збоку відней. Калі атрымліваецца — значыць папрацаваў ад душы. Як? На гэта адказаць амаль немагчыма. А як спяваюць? Як музыкуюць? Як адсякаюць лішняе? У кожнага свой падыход, свае тайны. Я — не выключэнне.

**— Працуючы над вобразам, вы стараецеся аднавіць у памяці ўбачанае? Скапіраваць яго? Альбо вы ідзяце ад сябе?**

— Толькі ад сябе, з сябе. Я не веру ў тэорыю — шукаць героя ў калгасе. Артыст, калі ён, вядома, артыст, як і пісьменнік, расказвае... пра сябе і толькі пра сябе. Нягледзячы ні на тэкст, ні на рознасць эпох, я заўсёды бачу ў вобразе толькі самога сябе. Два разы зрабіў выключэнне, здрадзіў свайму прынцыпу: першы — у спектаклі І. Друцэ "Свята душы". Герой быў падобны на майго дзеда-малдаваніна. Іграў дзеда. Успомніў яго манеру размаўляць, рухацца, жэстыкуляваць, дачыняцца з іншымі... Гэтая роля ў тэатры імя Маякоўскага была адна з любімых. Аднойчы ў Адэсе я паехаў у вёску, выйшаў з машыны каля хаты, дзе жыў дзед — там у той час жыў яго сын, мой дзядзька — Антон. Дзядзька, убачыўшы мяне, крыкнуў жонцы на поўным сур'ёзе: "Клава, дывісь! Дід Дзімітры прыіхав!" Гэта была для мяне самая высокая, ухвальная рэцэнзія...

...Другі раз — у спектаклі "Ляцяць пералётныя птушкі". Я не мог... пазбавіцца ад вобразу свайго цесця. Роля была напісана нібыта з яго. І я нібы ўнутрана прысвяціў гэтую работу шчыра паважанаму мною чалавеку.

**— Звычка строіцца, пазіраваць, прыцягваць увагу ўласціва амаль усім акцёрам, ад пачаткоўцаў да вялікіх. Гэта зразумела: пастаяннае знаходжанне на вачах у публікі, выдаткі прафесіі. Чаму гэтых выдаткаў зусім няма ў вас?**

— Відаць, таму, што сама прырода не дазваляе спекуляваць патаемным. Павінен прызнацца, я пакутлівa, асабліва ў маладыя гады, саромеўся сваёй прафесіі. На пытанне "дзе вы працуеце?" ніколі не адказваў дакладна. Прыдумваў, хлусіў. Не люблю канцэрты. На эстрадзе адчуваю сябе голым. Неяк ляцім з Кемерава ў Маскву з адным, відаць па вопратцы, чыноўнікам: дублёнка, шапка пыжыкавая. Прыстаў: адкуль я вас ведаю? Вядома, ён бачыў мяне на сцэне. У той час тэатр у Кемераве, асабліва прэм'ерныя спектаклі, ніхто не прапускаў. За час палёту той "чыжык-пыжык" празумкаў мне ўсе вушы, дамагаючыся, дзе мы з ім маглі сустракацца. Назваў усе дэфіцытныя базы горада, усе падазроныя месцы і лазні... Пра тэатр нават і не згадаў. Так я яму і не адкрыўся. Быў яшчэ і такі выпадак, калі зрабілася па-сапраўднаму сорамна, і я не змог нічога адказаць. Дырэктар Кемераўскага тэатра, грэчаскі яўрэй, неяк на поўным сур'ёзе, з гэтакім прыкрым спачуваннем пытаецца: "Вось пагляджу я на цябе і думаю: усё пры табе ёсць, прырода не пакрыўдзіла... Дык няўжо табе не сорамна крычаць?.. Крычаць кожны дзень адно і тое ж? Столькі ў свеце цікавых прафесій... А тут? Крычы і крычы!" Я не ведаў, што яму адказаць. Помню, сапраўды было сорамна...

**— Вас называюць акцёрам, які валодае майстэрствам пераўвасаблення. Наколькі мне вядома, вы амаль не карыстаецеся грымам. Скажыце, ці памагаюць вам наклейкі, прычоскі і іншае?**

— У пачатку карыстаўся актыўна ўсім: грымам, парыкамі, гумозай. Правільна знойдзены грым заўсёды выклікае цэласнасць унутранага самаадчування. Бывалі і такія ролі, дзе без грыму проста немагчыма. У "Васілісе Мяленцьевай" я іграў Івана Грознага. Як жа без грыму? Павінен быць падобным, хоць знешне. Цікавы быў грым у "Саборы Парыжскай маці боскай". З задавальненнем іграў Квазімоду. Купіў у аптэцы пратэзнае вока. Сваё адно заклеіваў, а тое умацоўваў на ўзроўні дзюбкі носа. Выгляд быў незвычайны. Самому было страшна. Сашка, сын, не вытрымліваў — плакаў. У ролі Квазімоды я надаваў шмат увагі знешняму малюнку: акрамя грыма — гарбу, кульгавасці. Ляцеў на сцэну з верхняй ложы на канаце пад аглушальны гук звона. Эфект! Да Квазімоды я двойчы сыграў Леніна. Іграю Квазімоду, а да мяне падыходзяць сябры і кажуць: "Валодзя, ты чаму картавіш?.." У тэатры грымам карыстаўся з задавальненнем. Апошні парык надзяваў у "Рычардзе III". У кіно таксама былі гістарычныя вобразы: Шаўмян, Нарыманаў, складаны грым рабілі, асабліва на пробах, Савінкаву. Дзякуй грымёрам. Іх праца сыграла, я б сказаў, ці не галоўнае значэнне пры зацвярджэнні. Тут да месца сказаць і пра касцюм. Касцюм, на мой погляд, з'яўляецца адным з асноўных кампанентаў. Нездарма ў даўніну на тэатры надавалася вялікая ўвага "абжыванню касцюма". Касцюм — гэта сутнасць чалавека, персанажа, героя.

**— Ці была ў вашай творчай біяграфіі роля, у якой увасобіўся ўвесь акцёрскі персанал і вы адчулі, што ўзняліся да самых вяршыняў тэатральнага мастацтва?**

— Што да вяршыняў, дык не мне пра іх меркаваць. І наогул, вяршыні — справа спартсменаў. Акцёру ў кожнай вялікай або малой ролі даводзіцца пераадольваць шмат прыступак і іншых перашкод на шляху стварэння вобраза. Але наконт ролі... Рычард.

**— Працуючы над тэкстам ролі, ці дапускаеце вы скарачэнні або перастаноўкі?**

— У Астроўскага гэта зрабіць немагчыма. Парушаецца ўнутраная музычнасць тэксту і ўся дынаміка партытуры кавалка, фрагмента, сцэны. А вось іграў я ролю аднаго пенсіянера, былога франтавіка, нястомнага шукальніка праўды-маткі. Герой прыязджае да сябра, прафесара, дырэктара сур'ёзнага інстытута, па дапамогу. Таксама галоўная дзейная асоба ў п'есе. Увесь другі акт мы з ім мусім высвятляць, што ў жыцці з намі здарылася. А ў жыцці пазасцэнічным здарылася так, што акцёр, які іграе майго сябра, забыўся, што ў яго ўвечары спектакль. Трэба пачынаць другі акт, акцёра ў тэатры няма. Пачалі ў спадзяванні, што вось-вось падыдзе. Ужо і час яго з'яўлення на рэпліку. Я — на сцэне з ягонай жонкай па п'есе. Невялікая паўза. Я гучна кажу, каб чула пампрэж за кулісамі: "Штосьці Коля твой затрымліваецца..." Актрыса разумее маю "ігру выратавання становішча" і гэтак жа знарочыста гучна — перш за ўсё да пампрэжа: "Так! Час яму быць! Пайду гляну... Можа, ён на кухню прайшоў!" І ідзе за кулісы, пакінуўшы мяне аднаго на сцэне. Я доўга, уважліва разглядваў кватэру, у якой жыве мой франтавы сябар, нават уключыў імпартны магнітафон, а ён, як ні дзіўна, зайграў, прайшоўся раздругі, азіраючыся. Уваходзіць актрыса-жонка і кажа: "Званіў Коля, ён затрымліваецца...", а сама мне на вуха шэпча: "Акцёра ў тэатры няма!" Тады я кажу: "Ну, што ж, затрымліваецца, дык і няхай". Я вось чаго да вас прыехаў..." І прамаўляю тэкст, які я павінен быў гаварыць свайму сябру, ягонай жонцы. Яна мне падтаквае. І — сыгралі ўвесь другі акт. Апладысменты былі. Сябры віншавалі: "Як ты хораша іграў". Ніхто не заўважыў адсутнасці персанажа. Вось такая ў нас сучасная драматургія.

**— Ці лёгка вы працуеце над засваеннем тэксту?**

— Цяжка. Я ўзяў сабе даўно за аснову: не прамаўляць тэкст, пакуль не адкажу сабе на пытанні ўсе: што, адкуль, навошта і чаму? Працую да прэм'еры. Што тычыцца гукавых фарбаў, адценняў, яны могуць з'яўляцца да бясконцасці, у залежнасці ад настрою і нават надвор'я.

**— Ці любіце вы імправізаваць?**

— У прынцыпе люблю. Дарэчы, адзіны спектакль "Гульня ў джын", дзе я кожны раз спрабую іграць па-рознаму. Гэта называецца — купацца ў матэрыяле. Каб мы не гаварылі пра тэатр, пра яго многія негатыўныя з'явы, але, калі акцёру надараецца выпадак падобнага "купання" — гэта найвысокая асалода ў прафесіі. Дзеля гэтага варта пражыць усё жыццё ў тэатры, калі нават у цябе нічога вартага не было, а здарыўся гэты цуд адзін раз у жыцці.

**— Вы пражылі вельмі багатае творчае жыццё і яшчэ ў добрай форме. Што б вы хацелі пажадаць самі сабе ў гэтыя гады?**

— Смеласці, і ў нейкай меры, калі хочаш — мужнасці: своечасова пайсці з тэатра... Я не прыхільнік тых, што марылі і мараць памерці на сцэне. У тэатра ёсць няпісаны закон: своечасова — прыйсці, своечасова — прайсці і своечасова — пайсці...

ЛіМ
ЧАСАПІС



## НАШ ЧАЛАВЕК У ФЛАРЫДЗЕ

### Яну ПЯТРОЎСКАМУ — 90

**Багатая слуцкая зямля на таленты. Апошнім часам да імён літаратараў, якія былі, як кажуць, ці не ў кожнага на слыху, дабавіліся і імёны тых, пра каго не адно дзесяцігоддзе маўчалі. Гэта пакутнікі, для каго другой радзімай стала замежжа — Янка Золак, Міхась Кавыль, Рыгор Казак, Уладзімір Клішэвіч і іншыя. У гэтай кагорце — і Ян Пятроўскі, якому 20 студзеня споўняецца 90 гадоў.**

**Пачалася ж жыццёвая дарога Яна Дзям'янавіча ў Слуцку. Бацька рана памёр. У 1919 годзе маці разам з сынам і дзвюма дочкамі выехала ў Вільню, дзе Ян скончыў гімназію, пасля служыў у польскай арміі. Затым скончыў Тэалагічную школу метадыстаў, працаваў год у Варшаве і чатыры ў Дзярэчыне (Зэльвенскі раён), дзе ці не ўпершыню па-сапраўднаму палюбіў родную беларускую мову. Дарэчы, размяняўшы дзевяты дзесятак гадоў, Ян Дзям'янавіч возьмецца за ўспаміны, наліша і выдасць у ЗША тры тамы "Мемуараў", у якіх знойдзецца месца і жыццю ў Дзярэчыне, і шмат якім іншым выпадкам з яго такога багатага і шматграннага жыцця.**

**Да пачатку другой сусветнай вайны служыў пастырам у Варшаве, але ў сакавіку 1941 года пераехаў у Германію. Далейшы шлях ляжаў у Аўстралію, ЗША, дзе Я. Пятроўскі жыве з 1953 года ў невялікім горадзе Гейнсвіль штата Фларыда.**

**З юначых гадоў зацікавіўшыся вывучэннем розных моў, ён з гадамі не растраціў гэтай прагі да духоўнага наталення. Ведае ўкраінскую, польскую, нямецкую, чэшскую, англійскую і іншыя мовы. А, безумоўна, на першым плане — беларуская.**

**Яшчэ падчас знаходжання ў Германіі, у 1949 годзе Я. Пятроўскі выпусціў па-беларуску паштоўкі, прысвечаныя Ф. Скарыне і Дню 25-га Сакавіка. З 1962 па 1966 год выдаваў газету "Светач Хрыстовае навукі".**

**І ўсё ж асноўныя набыткі Я. Пятроўскага — у перакладзе. У ЗША ён выдаў у перакладзе на беларускую мову шэсць кніг дыялогаў грэчаскага філосафа Платона. Акрамя таго, Я. Пятроўскі пераўвасобіў па-беларуску працу нямецкага філосафа К. Гумбальта "Унутраная форма мовы", выдаў трохтомнік "Лепшыя думкі чалавека", двухтомны "Грэцка-беларускі слоўнік".**

**Адным словам, жыве ў далёкай Фларыдзе наш чалавек, які так шмат робіць, каб жыло беларускае слова, каб шырылася колькасць кніг на адной з самых прыгожых і старажытных моў свету.**

**Хацелася б, каб гэтыя віншаванні дайшлі да спадара Пятроўскага. Каб ён даведаўся, што яго на Радзіме ведаюць, памятаюць і любяць.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**Споўнілася 60 гадоў з дня нараджэння вядомай балерыны, заслужанай артысткі Беларусі Раісы КРАСОЎСКАЙ. Аматары харэаграфічнага мастацтва ведаюць яе не толькі як адну з вядучых у свой час характарных танцоўшчыц у спектаклях ДАВТа. ("Святло і цені", "Пасля балю" Г. Вагнера, "Мара", "Выбранніца" Я. Глебава, "Спячая красуня" П. Чайкоўскага, "Дон Кіхот" Л. Мінкуса і інш.). Гэтае імя звязана таксама з гісторыяй стварэння і поспеху мінскага эстрадна-харэаграфічнага ансамбля "Чараўніцы", дзе рэалізаваўся талент Красоўскай як балетмайстра-рэжысёра. Нагадаем, што арганізатарам і кіраўніком ансамбля "Чараўніцы" быў муж артысткі, вядомы танцоўшчык і педагог Мікалай Красоўскі.**

**Народнаму артысту Беларусі Зіновію БАБІЮ 27 студзеня было б 60... Яго выдатны, "італьянскі" тэнар на працягу амаль 15 гадоў гучаў у спектаклях Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі. Добра ведала спевака публіка ў тэатрах Кіева ды Львова, дзе яму давялося працаваць на пачатку творчага шляху. У ягоным рэпертуары былі партыі Вертэра (аднайменная опера Ж. Маснэ), Каніё ("Паяцы" Р. Леанкавала), Жэрмона, Радамэса ("Травіята" ды "Аіда" Д. Вердзі), Кавaрадосі ("Тоска" Д. Пучыні), Германа ("Пікавая дама" П. Чайкоўскага), Сяргея ("Алеся" Я. Цікоцкага) ды інш. Заўсёдны поспех мелі камерныя канцэртныя праграмы З. Бабія. Зямное жыццё артыста раптоўна абарвалася ў 1984 годзе. Але яго непаўторны голас, які захаваўся ў "залатым" фондзе Беларускага радыё, усё гэтак жа гучыць у эфіры, нагадваючы пра цудоўны дыямент нашай музычнай культуры...**

---

**Віншуем!**



Юры Станкевіч (сапраўднае імя Георгій) — родам з Барысава. Рана далучыўся да працоўнага жыцця. З пятнаццаці гадоў працаваў на заводах і фабрыках роднага горада. Вучобу працягваў у вячэрняй школе. Без адрыву ад вытворчасці атрымаў вышэйшую адукацыю — скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Быў супрацоўнікам рэдакцыі барысаўскай аб'яднанай газеты "Камуністычная праца", затым перайшоў у часопіс "Маладосць". Цяпер — рэдактар аддзела крытыкі часопіса.

Як празаік, публіцыст, вядомы па публікацыях у той жа "Маладосці", "ЛіМе", іншых перыядычных выданнях. На ягоным рахунку — дзве кнігі прозы: "Луп", што выйшла ў "Бібліятэцы часопіса "Маладосць", і "Анёлы на бальшаку" — яе выпусціла выдавецтва "Мастацкая літаратура".

Прыцягнула ўвагу аповесць Ю. Станкевіча, што дала назву першай кнізе пісьменніка. У гэтым творы ён змог пераканаўча паказаць, як, здавалася б, невялікія маральныя і экалагічныя праблемы ўплываюць на жыццё ўсяго жывога, а лёс "братоў нашых меншых" — гэта, калі глядзець шырэй, і лёс самога чалавека, які тысячамі нябачных ніцяў паяднаны з прыродай.

Аповесць "Жудасны звер Гру" — па-свойму пераўвасоблены аўтарам міф пра Арфея і Эўрыдыку. У гэтай аповесці асэнсоўваецца тэма кахання, закранаюцца праблемы жыцця сучаснай моладзі.

Ад вострых праблем Ю. Станкевіч не адыходзіць і ў сваіх апавяданнях, хоць адначасова робіць спробу зазірнуць у мінулае. Прынамсі, гістарычная праблематыка закранаецца ў апавяданні "Пераправа".

Што тычыцца яго публіцыстычных выступленняў, дык яны, як правіла, прасякнуты адраджэнскім зместам. Ю. Станкевіч узнімае голас у абарону беларускасці, выступае супраць тых, хто цураецца матчынай мовы, асуджае нацыянальных нігілістаў і сучасных прыстасаванцаў.

Віншуем Георгія Васільевіча з поўднем веку! Жадаем яму моцнага здароўя і вострага пяра!

---

# ДЫК ДЗЕ "ХАОС"?

*(Пачатак на стар. 6-7)*

дакладна ацэньваць варыянты нормы і адхіленні ад яе ў маўленчай практыцы народа, а таксама павышаць навуковы ўзровень і культуру мовы сваіх публікацый, каб не памнажаць нікому непатрэбнага "хаосу".

Беларускім лінгвістам усе савецкія дзесяцігоддзі даводзілася балансаваць паміж рэальным станам і штодзённымі патрэбамі мовы і той гістарычнай перспектывай, "грамадскай неабходнасцю" (К. Крапіва), якую ёй абмалявалі тэарэтыкі "зліцця-злівання" нацый.

Як нейкае ліхое наканаванне: толькі пачынае мова падаваць прыкметы жыцця — адразу актывізуюцца розныя антыбеларускія сілы. Гэтак было ў 20-я гады, калі добрая спроба вярнуць мову ў дзяржаўны, грамадскі, навуковы ўжытак скончылася масавым разгонам і вынішчэннем самых свядомых і дбайных удзельнікаў нацыянальнага Адраджэння.

У канцы 60-х—пачатку 70-х гадоў была бліснула маленькая надзея на ўвагу да мовы ў сувязі з падрыхтоўкай і выданнем Беларускай Энцыклапедыі. Згуртаваныя вакол гэтай пачэснай і высакароднай справы энтузіясты (П. Глебка, Г. Гарэцкі, Я. Скрыган і інш.) паказалі ўзор сумленнай працы з родным словам, дастасоўваючы яго да патрэб навуковага выкладу. Гэта яскрава засведчыў выхад першых тамоў БелСЭ.

Але як тут заварушыліся служакі з ідэалагічных установ! Не перастаючы балбатаць пра небывалы росквіт нацый і нацыянальных моў, яны робяць тэрміновыя захады, каб не дапусціць рэальнага ажыўлення беларускай мовы. Арганізуюцца выступы ў друку, закрытыя водгукі (К. Крапіва, А. Жураўскі, Р. Клюсаў і інш.). Разлік і почырк ранейшы, езуіцкі: мовазнаўцы самі мусяць ганьбіць тыя "нацыяналістычныя" словы і сінтаксічныя канструкцыі, якія імі зацвярджаліся на Тэрміналагічнай камісіі БелСЭ (К. Крапіва — старшыня камісіі, у ліку яе членаў — М. Бірыла, М. Лобан, М. Суднік).

Цяжка паверыць, што гэта маглі рабіць людзі, закліканыя служыць беларускай навуцы і культуры. А можа, не сам ці не адзін К. Крапіва пісаў той "гістарычны" артыкул? Засумняваўся ж Б. Сачанка: "Чытаў, вядома, і яго [Крапівовы] артыкулы па пытаннях мовы, не надта верачы, што пісаў ён іх сам... Надта ж казённым, не яго, крапівоўскім, духам патыхала ад іх". ("Полымя". 1993, N 1).

У 70-я гады накіроўцы беларускай лінгвістыкі ўбачылі "хаос" у натуральным працэсе развіцця лексічнай сістэмы. Тады мясцовыя гаворкі былі ці не адзінай крыніцай папаўнення літаратурнай мовы самабытнай лексікай (спецсховы былі яшчэ пазачыняны). Значыць, трэ было хутчэй закруціць кран на гэтым "слова-праводзе". Вось чаму такое раздражненне і абурэнне выклікала ў "вядучых" лінгвістаў сапраўды народная, гранічна натуральная мова І. Пташнікава.

Проста дзіва, што пад крытычнае вока і гнеўнае пяро акадэмічных нармадаўцаў не трапіў Р. Барадулін. Ён жа таксама на поўніцу, з вялікім мастацкім плёнам чэрпаў з моўных скарбаў роднай Вушаччыны, прагна дапаў да нерушу матчынага слова. "Чыстка" мінула паэта, відаць, таму, што ён ужо з 50-х гадоў усталяваўся ў свядомасці беларускага чытача як майстар самабытнай мовы, якая дасягаецца ў вялікай меры індывідуальнай словатворчасцю. А наватворы ж і тады былі "ўзаконеныя", кваліфікаваліся як неадымная рыса мастацкай мовы. Да таго ж пільныя "вартавыя слова" неяк не разгледзелі, што сярод так званых аўтарскіх неалагізмаў — вялікая доля слоў мясцовых, дагэтуль не ўжываных у літаратуры. Яны арыгінальна загучалі ў вершах Р. Барадуліна і надалі свежасці і моцы нашай мове. Дарэчы, і сёння бывае нялёгка пазнаць, дзе паэт бярэ з народна-дыялектнай мовы, а дзе стварае сам. Нядаўна, перакладаючы верш М. Лермантава, ён ужыў дасюль невядомае літаратурнай мове слова *аброў* як адпаведнік рускага утёс.

Цяперашні правадзейны корпус дактароў-філолагаў, прафесароў-мовазнаўцаў выхоўваўся ў пасляваенны час на традыцыях (моўнай палітыцы) 30—50-ых гг., калі тэорыя і практыка рускай мовы жыўцом пераносілася на мову беларускую. Навуковая праца нярэдка зводзілася да напаўнення гатовых схем аналізу "мясцовым" матэрыялам, ілюстравання гатовых вывадаў, калькавання, а то і пераносу рускай тэрміналогіі. Што не адпавядала схемам, тое ігнаравалася або залічвалася да застарэлага або дыялектнага. Так гублялася спецыфіка мовы. Вядома, напрыклад, што ў рускім мовазнаўстве моцная традыцыя "забароненасці" — недапусканне ў вышэйшыя, кніжныя стылі сродкаў гутарковай мовы. На гэта ёсць падставы: у рускай мове існуе выразная стылістычная дыферэнцыяцыя моўных сродкаў. Перанесеная ж нятворча на беларускую глебу гэтая "арыстакратычнасць" густу ставіць пэўную перашкоду на шляху слова, формы, сінтаксічнай канструкцыі з жывой гутаркі ў пісьмова-літаратурны ўжытак. Значнае адлюстраванне гэтая з'ява знайшла ў акадэмічных і школьных граматыках і слоўніках.

Усталяванне ў навуковым свеце — абарона доктарскай, атрыманне звання прафесара — у многіх філолагаў-лінгвістаў адбывалася ў перадпенсійным узросце. Здабыўшы жаданыя ступені, званні, але не паспеўшы пакарыстацца з іх, яны стараюцца як найдаўжэй затрымацца ў навуковых і навучальных установах. На базе такіх жыццёва канкрэтных інтарэсаў і "задач" яны салідарызуюцца, аб'ядноўваюцца і сустракаюцца ў розных камісіях, рэдкалегіях, навуковых радах.

Сярод беларускіх мовазнаўцаў, бясспрэчна, ёсць здольныя людзі, якія і абараніліся ў пару, і паспелі стварыць сабе імідж вядучых вучоных. Яны вырашаюць важныя пытанні жыцця і функцыянавання мовы (кадыфікацыя літаратурных нормаў, удакладненне правапісу і г. д.), не выпускаючы з-пад увагі канчатковае мэты нацыянальнай палітыкі... Ім дружна дапамагаюць "прыпазнелыя", імітуючы актыўнасць і навуковую глыбакадумнасць дзеля хоць позняга, а ўсё ж "прызнання". Праз такі мур-сцяну цяжка прабіцца таму новаму, што нараджаецца практыкай зносін, дыктуецца вымогамі паўнакроўнага функцыянавання беларускай мовы.

На заканчэнне хацеў бы заклікаць мовазнаўцаў, журналістаў, пісьменнікаў з большай развагай успрымаць і ацэньваць зрухі ў мове і не ўздымаць "ляманту" і панікі там, дзе мае быць увесьчасная спакойная зацікаўленая праца дзеля жыцця і росквіту роднага слова.

---

# ЗАБЛЫТАНЫЯ КАРАНІ

*(Пачатак на стар. 5)*

мове: нават "зашыфраваная" ў мастацкую алегорыю нацыянальная ідэя знаходзіла водгук у сэрцах беларусаў. "Шляхціц Завальня", з'явіўшыся ў той час па-беларуску, быў бы ўсяго толькі фальклорным зборнікам, у лепшым выпадку накшталт зборнікаў А. Сержпутоўскага.

Перад В. Дуніным-Марцінкевічам, як і перад іншымі літвінамі, аказалася невырашальнай задача: хто я — літвін ці беларус? Уся гісторыя нібыта сведчыла на карысць літвінскага паходжання, аднак сёй-той з літвінаў падсвядома цягнуўся да шматмільённага вясковага люду. Створаная палітыкамі блытаніна ў найменнях падзяліла адзіны народ на беларусаў і літвінаў ды штурхала яго ў розныя бакі. І толькі напрыканцы XIX стагоддзя, калі бар'ер між беларусамі ды літвінамі стаў непераадольным (бо зніклі ў віхурах 1863 года тыя, хто спалучаў у сабе два гэтыя пачаткі), літвін пачаў канчаткова атаясамлівацца з жамойтам. Гэтаму спрыяла і афіцыйная палітыка царызму.

Але да 1864 года літвінская ідэя была ў больш блізкіх дачыненнях з беларускай ідэяю, чым з жамойцкай. Прадстаўнікі літвінскага руху не вялі ідэалагічнай вайны з беларускім нацыянальным рухам. Як найлепшае сведчанне гэтаму — "Альбом" А. Вярыгі-Дарэўскага.

Таму непераканаўча гучыць думка А. Латышонка, што "беларуская нацыянальная ідэя (...) несумяшчальная з літоўскаю". Сёння больш правільна гаварыць пра беларуска-літвінскую ідэю. І першая, і другая нацыянальныя ідэі грунтаваліся на адным менталітэце, на адных і тых жа нацыянальна-культурных і духоўных каштоўнасцях.

Памылковай трэба лічыць трактоўку А. Латышонкам рэвалюцыйнай і публіцыстычнай дзейнасці К. Каліноўскага. Нельга на шалі вагаў Гісторыі кідаць тое, што было, і тое, што магло б быць, каб пасля сцвярджаць: паўстанне 1863 года прынесла шкоду развіццю беларускага руху. Даруйце, але ж К. Каліноўскі — гэта толькі адзін шлях развіцця беларускага руху. Быў жа яшчэ адзін — шлях Міхайлы Каяловіча, шлях згодніцтва з царызмам, шлях, які вёў да з'яўлення "истинно русских людей". І ці ж можна адназначна сцвярджаць, што менавіта К. Каліноўскі падштурхнуў беларусаў на шлях "западноруссизма"?

На нашу думку, К. Каліноўскі свядома ахвяраваў сабою. Гераічны чын гэтага чалавека не даў знікнуць у беларускім народзе духу волі. У выніку беларуска-літвінская нацыянальная ідэя ўвабрала ў сябе думку пра дзяржаўную незалежнасць краю. Менавіта з гэтага часу ідэя самастойнага існавання дзяржавы на нашых землях атрымала беларускае гучанне. Неспрыяльныя палітычныя ўмовы апошняй трэці XIX—пачатку XX стагоддзя прымусілі гоманаўцаў (1884) і нашаніўцаў (1906—1915) высунуць на першы план ідэю аўтаноміі Беларусі ў складзе Расійскай імперыі, але калі сітуацыя змянілася, беларускія дзеячы вярнуліся да ідэі К. Каліноўскага.

Увогуле ж пытанне станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай ідэі патрабуе больш шырокай гаворкі. Памераў артыкула недастаткова, каб аргументавана вытлумачыць усе аспекты гэтай праблемы.

**Мікола ХАЎСТОВІЧ**

1945-1995

# З ВАЙНОЙ НЕ СКОНЧАНЫ РАХУНКІ

***"Тогда считать мы стали раны, товарищей считать..." Калі — тады? Лермантаўскія героі зрабілі гэта адразу пасля Барадзінскай бітвы, на яшчэ прапахлым парахавым гарам полі. Салдаты другой вайны, Вялікай айчыннай, не ведалі і не ведаюць дагэтуль, колькі іх баявых таварышаў зжэр малох вайны. Але самае страшнае, што дзесяткі, сотні тысяч іх дагэтуль не пахаваны. У тым ліку і ў нас, на Беларусі. А колькі воінаў хоць і пахаваны, але — у наспех выкапаных магілах, ад якіх ужо праз пару месяцаў не заставалася следу. Колькі іх схавала зямля і хто яны, мы не даведаемся ўжо ніколі.***



Толькі за першы тыдзень баёў, да першага ліпеня 1941 года, войскі Заходняга фронту страцілі забітымі больш за 500 тысяч чалавек (77 працэнтаў штатнай колькасці). Калі ж улічыць, што ў першыя дні вайны на тэрыторыі Беларусі ў рэгулярную армію было мабілізавана больш як 400 тысяч чалавек і большасць з іх загінула, так і не трапіўшы ні ў якія спісы, дык можна меркаваць, што колькасць страт перавысіць 650 тысяч чалавек. Дакладную лічбу загінуўшых на Беларусі ў пачатковы перыяд вайны ўстанавіць практычна немагчыма, як немагчыма дакладна вызначыць нават месцы масавых пахаванняў. Гэта ў першую чаргу тлумачыцца тым, што выканаць загад народнага камісара абароны N 138 ад 15 сакавіка 1941 года аб парадку пахавання загінуўшых у баях ва ўмовах, калі тэмп наступлення нямецкіх войск даходзіў да 200 кіламетраў у суткі, — было практычна немагчыма. Такім чынам, сотні тысяч савецкіх воінаў так і засталіся непахаванымі і нават безыменнымі.

Ад пачатку вайны сплыло больш за паўстагоддзя. За гэты час на самых розных узроўнях дзяржаўнай улады было прынята нямала пастаноў аб неабходнасці ўвекавечання загінуўшых. І кожны раз здавалася, што вось ужо цяпер іх удасца вырваць з палону забыцця. Але праходзілі месяцы, гады, а ўсё заставалася па-ранейшаму. Сярод тых дакументаў назавём адзін з апошніх, а менавіта пастанову Савета Міністраў БССР N 763 "Аб увекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў", якая выйшла 21 снежня 1992 года. У адным з пунктаў яе гаварылася, што "... увекавечанне памяці... праводзіцца спецыяльнымі воінскімі падраздзяленнямі з удзелам грамадскіх пошукавых аб'яднанняў". Такія воінскія падраздзяленні ў рэспубліцы так і не былі створаны, а ўся работа ў гэтым напрамку была ўскладзена на грамадскія арганізацыі, якія не мелі ні належных сродкаў, ні вопыту.

Затое на месцах былых баёў сёння праяўляюць зайздросную актыўнасць "шукальнікі" іншага кшталту, так званыя "трафейшчыкі", а прасцей кажучы — звычайныя марадзёры, узброеныя сучаснымі імпартнымі прыборамі, якія дазваляюць беспамылкова на глыбіні 3—4 метраў адшукваць зброю, боепрыпасы, іншыя выбуховыя рэчывы, якія зараз карыстаюцца павышаным попытам у пэўнай катэгорыі грамадзян. Пры раскопках пахаванняў яны шукаюць і залатыя вырабы, нарабаваныя акупантамі ў мясцовага насельніцтва, а таксама жэтоны нямецкіх салдат, якія потым за валюту прадаюць грамадзянам Германіі.

Дарэчы, ёсць яшчэ адзін нюанс, які сведчыць на карысць прыцягнення да пошуку астанкаў загінуўшых у мінулай вайне менавіта воінскіх падраздзяленняў. Справа ў тым, што мясціны, дзе некалі праходзілі жорсткія баі, літаральна нашпігаваны бомбамі, снарадамі, мінамі, якія тояць смяротную небяспеку, перш за ўсё для тых, хто праводзіць пошукавую работу на грамадскіх пачатках. Прывяду такі факт. Пры правядзенні не так даўно суцэльнага размініравання ў Дубровенскім раёне Віцебскай вобласці сапёрамі было знойдзена і абяшкоджана 50526 выбуховых прадметаў.

Літаральна да апошняга часу дакладныя дадзеныя аб стратах асабовага складу Савецкай арміі ў гады Айчыннай вайны трымаліся ў сакрэце. Па сутнасці пад заслонай тайны трымаюцца гэтыя звесткі і сёння, хоць ваенныя гісторыкі і сцвярджаюць, што ўлік страт у нас заўсёды быў вельмі дакладны.

Сапраўды, 15 сакавіка 1941 года, акурат напярэдадні вайны, Нарком абароны СССР падпісаў загад, які ўводзіў у дзеянне Палажэнне "Аб персанальным уліку страт і пахавання загінуўшага асабовага саставу Чырвонай Арміі ў ваенны час". Паводле гэтага загаду, дарэчы, памечанага грыфам "Зусім сакрэтна", да першага мая 1941 года ўвесь асабовы састаў Чырвонай Арміі павінен быў атрымаць медальёны з укладышамі, на якіх указваліся кароткія біяграфічныя звесткі воінаў, а таксама месца жыхарства іх родных. Укладыш медальёна запаўняўся ў двух экземплярах. Адзін з іх у выпадку гібелі яго ўладальніка пахавальнай камандай з медальёна вымаўся і перадаваўся ў штаб часці або лячэбнай установы, дзе памёр паранены. Другі экземпляр заставаўся ў медальёне пры забітым. Адсюль вынікае, што выяўленне на месцах былых баёў медальёнаў з адным укладышам сведчыць пра тое, што пахаванне тут не было безыменным, і другі укладыш недзе захоўваецца.

Такім чынам, пахаванне загінуўшых на полі бою праводзілася не стыхійна (за выключэннем пачатковага перыяду вайны), а ў пэўным парадку, які зноў-такі рэгуляваўся раздзелам пятым нагаданага Палажэння.

У прыватнасці, для збору трупаў у месцах баёў загадам камандзіра палка прызначалася спецыяльная каманда (ва ўжытку яе часта называлі "пахавальнай"), у абавязкі якой увходзіў пошук і рэгістрацыя (па ўкладышах медальёнаў) загінуўшых, збор і дастаўка іх на дывізійныя пункты пахавання.

Пасля заканчэння збору трупаў старшы каманды прадстаўляў у двух экземплярах спіс начальніку штаба палка з указаннем месца іх знаходжання. Да спісу прыкладалася дакладная схема размяшчэння магілы. Пахаванне праводзілася толькі ў маштабе дывізіі (брыгады) у брацкіх магілах. Згодна з патрабаваннямі адпаведных дакументаў магілы капаліся на глыбіню да паўтара метра, зверху насыпаўся магільны груд вышынёй да паўметра, які пакрываўся дзёрнам або каменнем. На магіле ўстанаўлівалася піраміда, зробленая з дошак або каменя, на якой выпальваўся або пісаўся нумар магілы. Загінуўшы камандны састаў (ад камандзіра палка і вышэй) хаваўся ў драўляных трунах, астатні афіцэрскі састаў — у асобных магілах.

Акрамя таго, у кнізе пахавання супраць кожнага прозвішча дакладна вызначалася месца знаходжання загінуўшага ў магіле, упісваўся парадкавы нумар магілы і дакладна ўказвалася на тапаграфічнай карце буйнога маштабу яе размяшчэнне. Па гэтай кнізе і сёння можна даведацца не толькі, дзе знаходзіцца магіла, а нават і размяшчэнне астанкаў у ёй. Адзін экземпляр карты з абазначэннем магілы высылаўся ва Упраўленне па ўкамплектаванні войск Генштаба Чырвонай Арміі разам са спісамі загінуўшых.

Такім чынам, улік сапраўды вёўся, але, праўда, толькі з лета 1943 года, калі нашы войскі перайшлі да наступальных дзеянняў. Можна сцвярджаць, што калі пахаванне не парушана, то і сёння можна дакладна вызначыць месца пахавання воінаў, якія загінулі пры вызваленні Беларусі ў 1944 годзе.

У 50—70-х гадах па ўказанні адпаведных партыйных і савецкіх органаў, якія лічылі, што ад наяўнасці такой вялікай колькасці пахаванняў можа стварыцца ўражанне аб вельмі вялікіх стратах нашых войскаў у гады Айчыннай вайны, пачаліся кампаніі (як правіла, перад чарговым юбілеем) па звядзенні пахаванняў (нярэдка з тэрыторыі ўсяго раёна) у адну брацкую магілу. У выніку такой акцыі, натуральна, парушаўся парадак размяшчэння астанкаў у пахаваннях, і сёння ўжо немагчыма іх ідэнтыфікаваць.

Для ўпарадкавання аховы месц пахаванняў пастановай Савета Міністраў РБ ад 21 снежня 1992 года былі забаронены ўсе віды работ, якія могуць стварыць пагрозу для воінскіх могілак. Што ж адбываецца на самой справе? Карты з дакладнымі каардынатамі месц пахаванняў знаходзяцца ў Цэнтральным архіве Міністэрства абароны РФ у г. Падольску, у нас няма дакладных звестак аб размяшчэнні многіх воінскіх пахаванняў на тэрыторыі рэспублікі. У выніку за імі ніхто не сочыць, і здараюцца выпадкі міжвольных ускрыццяў пахаванняў у час правядзення сельскагаспадарчых, будаўнічых і іншых відаў работ. Так што наспела пытанне аб перадачы ўсіх гэтых дадзеных нам, і вырашыць гэта трэба на міждзяржаўным узроўні.

У гэтым жа архіве, акрамя таго, ёсць звесткі пра больш чым 15 мільёнаў загінуўшых. Гэтыя дадзеныя даюць магчымасць іх сваякам упершыню за многія гады даведацца аб дакладным месцы пахавання іх блізкіх.

Шмат для вырашэння гэтых і іншых праблем зрабілі актывісты пошукавага руху мінчане Н. Трабянок і В. Лунёў. Але два чалавекі не ў стане зрушыць з мёртвай кропкі вырашэнне гэтых пытанняў.

За апошнія пяць гадоў членамі грамадскіх пошукавых груп, атрадаў і аб'яднанняў пры раскопках былі знойдзены астанкі больш 3 тысяч загінуўшых воінаў. Многа гэта ці мала? Для грамадскіх арганізацый, вядома, нямала, ды калі яшчэ мець на ўвазе, з якой рызыкай звязана правядзенне гэтых работ. Але калі ўлічыць, што многія пахаванні перыяду 1941 года дагэтуль з'яўляюцца безыменнымі, а ў іх жа, як мы гаварылі, па самых прыблізных разліках могуць знаходзіцца астанкі больш за 500 тысяч нашых воінаў, то гэта з'яўляецца кропляй у моры.

**І. КУЗНЯЦОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

Памяць

# НА ПОМНІК Г. КАХАНОЎСКАМУ

Краіны, што доўгі час былі пад прыгнётам таталітарызму, цяжка выходзяць на каляіну сапраўднага народаўладдзя. Беларусь не з'яўляецца выключэннем. Наадварот, у нашым выпадку справа ўскладняецца зародкавасцю дэмакратычных традыцый, трываласцю выхаваных камуністамі люмпенскіх настрояў, мала змененай палітычнай сістэмай, створанай яшчэ пры аднапартыйным рэжыме. Аднак у цэнтры Еўропы не можа захавацца другая Куба, і край будзе рухацца да цывілізаванага грамадства, заснаванага на прынцыпах агульначалавечых каштоўнасцей, дзе без рэвалюцый і грамадзянскіх войнаў сфармуецца сацыяльна гарманічная, у межах дасягальнага, супольнасць. Толькі трэба ўсвядоміць, што такая супольнасць немагчымая без дэмакратыі, а апошняй не бывае ў калоніях. Таму так важныя сёння не толькі выхаванне дэмакратычнай ментальнасці, але і захаванне і ўмацаванне дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь.

Улічваючы ўсё гэта, група беларускай перавага навуковай інтэлігенцыі заснавала Фонд сацыяльных ініцыятыў і даследаванняў імя выдатных беларускіх адраджэнцаў Івана і Антона Луцкевічаў. Прэзідэнтам фонду абраны акадэмік Радзім Гарэцкі. Гэта грамадская арганізацыя прызначаецца для вывучэння і прапаганды гісторыі, тэорыі і практыкі як беларускага, так і замежнага дэмакратычнага сацыяльнага руху, для даследавання праблем сучаснага сацыяльнага і культурнага развіцця і нацыянальнага адраджэння Беларусі. Сярод іншага фонд ставіць за мэту публікаванне лепшых здабыткаў еўрапейскай сацыял-дэмакратычнай думкі, а таксама творчай спадчыны дзеячаў беларускага адраджэння, пошукі і ўшанаванне мясцін, звязаных з іх жыццём. Надзённая задача фонду — стварэнне Беларускага народнага універсітэта з аддзяленнямі айчыннай гісторыі і гісторыі сусветнага сацыялістычнага і рабочага руху.

Сёння пачалася работа па стварэнні і ўстаноўцы помніка на магіле выдатнага беларускага вучонага і патрыёта Генадзя Кахапоўскага, які так заўчасна пайшоў ад нас.

Аднак без грамадскай падтрымкі ажыццявіць задуманае будзе цяжка, асабліва без адпаведнага фінансавання адукацыйных праграм. Таму жадаючыя дапамагчы могуць пералічваць грашовыя ахвяраванні на разліковы рахунак фонду 700430 у АКБ "Дукат", код банка 767.

Пералічэнні на помнік Генадзю Каханоўскаму павінны суправаджацца адпаведнай дапіскай.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ,**
**сябра рады Фонду сацыяльных ініцыятыў і даследаванняў імя братоў Луцкевічаў**

